



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 канал(аў) ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 сакавіка 2017 года №11 (1142)




# За 15 хвілін у службу 103 былі тры выклікі на клінічную смерць



На здымку злева направа: загадчык станцыі "хуткай дапамогі" Андрэй Мушавец, фельчар Людміла Чуес, доктар псіхіятрычнай брыгады Уладзімір Кушнір і фельчар Кацярына Кірылава.

старонка 20-21

Фота Наталлі ТУР.



Ад 3 красавіка "Рэгіянальная газета" пераязджае на новае месца працы па адрасе:

Маладзечна, Вялікі Гасцінец, д. 143, офіс 518 (5 паверх) у ГЦ "Тройка"

Запрашаем у новы офіс!

Кантактныя нумары:

(8029) 573-28-47, (8029) 676-84-20



# Пайшоў з жыцця краязнаўца Аляксандр Харытон



МАЛАДЗЕЧНА

**Месяц таму мы праз "Рэгіянальную газету" віншавалі спадара Аляксандра з 80-годдзем, а сёння развітваемся з ім назаўсёды. Яго сэрца спынілася 14 сакавіка.**

Аляксандр Уладзіміравіч нарадзіўся ў Красным. Дзяцінства прыпала на ваенныя гады.

Ён расказваў карэспандэнтам "РГ" пра тое, як яго сям'я жыла пад фашысцкай акупацыяй. Нельга было дапамагаць яўрэям, за парушэнне забароны фашысты пагражалі расправай над усёй сям'ёй. Вось якая сцэна асабліва ўрэзалася краязнаўцу ў памяць: "Неяк вечарам маці пражыла гарох – смажыла са шмальцам. І тут заскоквае ў хату яўрэй – адразу ў кут. І плача, а пах ад гароху ідзе. І маці стаіць, плача. Яна драўлянай лыжкай прынесла гарох, перасыпала ў рукі, а ён гарачы, яўрэй душыцца гэтым гарачым гарохам..."

З дзяцінства ён памятаў, як яўрэяў везлі на расстрэл і спальванне, а яны крычалі сваім суседзям: "Браты беларусы, ратуйце: сёння нас, а заўтра вас!"

Аб гэтым расказваў амаль у 80 гадоў так падрабязна, нібы гэта яшчэ зусім свежая рана.

Пасля Аляксандр жыў і працаваў у Мінску. А на пенсіі вярнуўся ў бацькоўскую хату, абнавіў яе. Займаўся пчоламі і нават садзіў сад некалькі год таму. Што вельмі ўразіла яго аднавяскоўца, гісторыка і супрацоўніка Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Сяргея Старыкевіча**.

Аляксандр Харытон пачаў даследаваць гісторыю Краснага. Журналістам нашага выдання краязнаўца дакладна паказаў месца, дзе спалілі тысячы яўрэяў у той дзень, які запомніўся яму на ўсё жыццё. Цяпер там агарод, на месцы току садзяць бульбу. Пазней яўрэйская супольнасць паставіла на гэтым месцы помнік.

Сяргей Старыкевіч адзначае, што Харытон быў не толькі даследчыкам. Знайшоўшы ў Красным магілу апошняга "каліноўца" Ігната Абрамовіча, ён аднавіў надпіс на помніку. Адрамантаваў помнік, уладкаваў магілу. Рабіў усё гэта зімой, абуўшы валёнкі. Сказаў, што не можа чакаць да вясны.

Аляксандр Харытон – гэта ўзор вялікай любові да сваёй зямлі, велічы духу і прынцыповасці. Гэта асоба, якая застанецца ў гісторыі Краснага як гонар і сумленне мястэчка.

### "Не сустракаў больш шчырага чалавека"

Расказаць пра краязнаўцу мы папрасілі нашага пастаяннага чытача **Алеся Раткевіча**, які быў блізкі з Харытонам:

– Спадар Алесь... Вось гэтак пастаянна мы звярталіся адзін да аднаго, нягледзячы на розніцу ва ўзросце. Але гэтай розніцы мы не заўважалі.

Аляксандр Уладзіміравіч заўжды адносіўся да людзей з вялікай павагай, і да старога, і да маладога. У яго былі смага да беларушчыны, інтэлігентнасць. Жыццёвая мудрасць дазваляла мець шмат сяброў, аднадумцаў. Для мяне ён служыў прыкладам і дарадчыкам у краязнаўстве.

Я не сустракаў больш шчырага чалавека, які душу і сэрца аддаў дзеля адраджэння гістарычнай памяці бацькаўшчыны. Увесь вольны час ён прысвячаў гэтай тэме.

На вялікі жаль, мы праводзім Аляксандра Уладзіміравіча ў апошні шлях, але памяць аб ім застанецца надоўга, бо тут ён пакідае добрыя і карысныя вынікі сваёй дзейнасці.

Мне будзе вельмі яго не хапаць як аднадумца, сябра і ўвогуле, як цудоўнага і шчырага чалавека.

**Шчыра спачуваем родным і блізкім Аляксандра Уладзіміравіча Харытона з прычыны страты выдатнай і шчырай асобы.**

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".



Алімпіядныя заданні для педагогаў Ала Бітэль скарыстае на ўроках.

Фота забяспечвала Ала БІТЭЛЬ.

# Як педагогі правяралі ўласныя веды

## Настаўнікі рэгіёна паўдзельнічалі ў прадметных алімпіядах

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА

**Адчуць амаль студэнцкае хваляванне, нібы напярэдадні чарговай экзаменацыйнай сесіі, хоць ужо колькі год працуеш настаўнікам?**

Педагогі рэгіёна, якія паўдзельнічалі ў дыстанцыйнай алімпіядзе для настаўнікаў Міншчыны, сцвярджаюць, што гэта цалкам магчыма. Больш за тое, хваляваацца часам даводзілася нават больш, чым у студэнцтве: вельмі абмежаваны быў час на выкананне.

Заданні першага этапу арганізатары патрабавалі зрабіць за адну гадзіну. На другі этап, больш складаны, адвялі чатыры гадзіны.

Усе заданні педагогі выконвалі ў школе і да вызначанага часу адпраўлялі на электронны адрас арганізатараў.

Свае веды маглі праверыць настаўнікі геаграфіі, нямецкай мовы, інфарматыкі, беларускай мовы і літаратуры. У алімпіядзе ўдзельнічалі педагогі з Валожына, Вілейкі, Мядзела, Маладзечна. Па ўсіх прадметах, акрамя нямецкай мовы, удзельнікі з нашага рэгіёна атрымалі дыпломы.

### Мікалай Гіро: Тацццяна Бруева – настаўніца, якая працуе над сабой і над дзецьмі



На думку дырэктара вілейскай школы №3 **Мікалая Гіро**, такія алімпіяды павышаюць узровень майстэрства настаўніка і ні ў якім разе не выклікаюць сумнення ў прафесійнасці педагога.

– Настаўнікі нашай школы ўдзельнічаюць у абласной дыстанцыйнай алімпіядзе ўжо другі год. Робяць гэта па асабістым жаданні, – распавядае дырэктар. – Летась таксама былі дыпломы.

А сёлета праверылі свае веды тры настаўнікі. Два з іх узялі дыпломы трэцяй ступені па інфарматыцы і геаграфіі. А настаўніца беларускай мовы **Таццяна Бруева** заняла першае месца ў вобласці.

> Таццяна Аляксееўна ў нас малайчынка, кажа Мікалай Гіро пра сваю падначаленую.

Гаворыць, што як толькі даведаўся пра вынікі, то патэлефанаваў Таццяне Аляксееўне з віншаваннямі.

Дырэктар прызнаўся, што днямі гартаў папку-партфоліа Таццяны Бруевай і адзначыў, што ў кожным навучальным годзе гэта настаўніца і яе вучні маюць сур'ёзныя перамогі і на абласных, і на рэспубліканскіх конкурсах па беларускай мове і літаратуры.

На думку дырэктара, такіх вынікаў у працы настаўніца дабіваецца дзякуючы таму, што шмат працуе над сабой і над вучнямі.

Як кіраўнік Мікалай Гіро задаволены поспехамі настаўнікаў трэцяй школы. Аднак, прызнаецца, што, калі б і не было такіх добрых вынікаў, ніхто б не стаў крытыкаваць педагогаў.

Сама ж пераможца, настаўніца Таццяна Бруева, лічыць, што такія алімпіяды для настаўнікаў патрэбныя. Яны, на думку жанчыны, трымаюць педагога ў тонусе. Але такі момант, як лішнія нервы, калі нешта не атрымоўваецца, таксама ёсць.

Вучні пакуль не ведаюць ні пра алімпіяду, ні пра перамогу сваёй настаўніцы. Толькі **Люба Агарова**, вучаніца Таццяны Бруевай і пераможца абласной алімпіяды па беларускай мове, радавалася за першае месца разам з настаўніцай.

Усе алімпіядныя заданні для настаўнікаў Таццяна Аляксееўна прапрацавала разам са сваёй вучаніцай. Цяпер Люба рыхтуецца да рэспубліканскай алімпіяды і лішні раз, на думку настаўніцы, патрэніравацца не пашкодзіць.

### Настаўніца з Валожына Ала Бітэль: я адчула сябе студэнткай



Калегу Таццяны Бруевай, настаўніцу з валожынскай школы №1 **Алу Бітэль**, таксама ўзнагародзілі дыпломам першай ступені. Валожынскія вучні, як і вілейскія, пра перамогу настаўніцы не ведаюць. Ды я і сама, прызнаецца настаўніца, толькі-толькі даведалася.

Ала Бітэль згодная з калегай з Вілейкі, што лінгвістычны аналіз тэксту быў найбольш складаным. Па-першае, таму што давалі мала часу. Па-другое, такую форму працы ў школе амаль не выкарыстоўваюць.

На думку валожынскай настаўніцы, алімпіяды для педагогаў даюць магчымасць узнавіць свае веды і адчуць сябе студэнтам. Да таго ж заданні, якія прапанавалі настаўнікам на алімпіядзе, можна выкарыстаць у школе на ўроку.

Па словах намесніка дырэктара валожынскай школы №1 **Алены Трус**, тут пытанні з удзелам у падобных мерапрыемствах вырашаюцца проста. У школе толькі дзве настаўніцы беларускай мовы, таму ў конкурсах яны ўдзельнічаюць па чарзе.

На час выканання алімпіядных заданняў педагогаў, расказала намеснік дырэктара, вызвалілі ад урокаў. Побач быў настаўнік інфарматыкі, каб не дапусціць тэхнічных праблем. А ўзнагародай настаўніцы за паспяховы ўдзел у алімпіядзе ад кіраўніцтва школы стане грашовая прэмія.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Электраманцёр Ігар Чычын правярае напружанне.

# Чым займаецца лабараторыя пры вілейскай ЖКГ

ВІЛЕЙКА

**Ёсць пры вілейскай ЖКГ лабараторыя. Працуюць у ёй тры чалавекі.**

Пры ўсёй сваёй нешматлікасці супрацоўнікаў лабараторыя робіць сур'ёзную справу: праводзіць электрафізічныя вымярэнні, каб праверыць стан электраправодкі і аўтаматычных ахоўных прылад.

Па словах начальніка **Наталлі Сідзякі**, сёння кватэры, прыватныя дамы і арганізацыі літаральна нашпігаваныя электраабсталяваннем. Пральная і пасудамыйная машыны, камп'ютар, тэлевізар, а то і два, халадзільнік, маразільнік, электрычны чайнік, плойка, некалькі мабільнікаў на падзарадцы... Мы па шматгадовай звычцы ўтыкаем вілкі ў разеткі і далёка не заўсёды думаем пра электраправодку.

Але ў 1950-1980-я гады пра многія з гэтых даброт ні нашы бабулі з дзядулямі, ні бацькі не ведалі. І калі будаўнікі ў гэты час узводзілі дамы, яны не думалі, што праз дзесяцігоддзі электрычная праводка спатрэбіцца куды больш трывалая.

Цяпер некаторыя жыхары старых дамоў для таго, каб падключыць тую ж пральную машыну-аўтамат дзеля ўласнай бяспекі праводзяць асобны кабель. Бо ад вялікага напружання і дарагая тэхніка можа сапсавацца, і чалавек можа пацярпець.

– А вось калі сёння будуюць шматкватэрныя і прыватныя дамы, – распавядае Наталля Сідзяка, – там ужо ўсё прадугледжваюць.

Па словах спецыялістаў, жыхары дамоў, пабудаваных нядаўна, могуць быць адносна спакойныя за электрабяспеку ўласнага жытла. Калі тут у электразабеспячэнні здарыцца нейкі збой, то спрацоўвае аўтаматычная сістэма, якая засцеражэ ад сумных наступстваў.

> **Нават калі проста перагарыць лямпачка, то спрацуе аўтамат, які адключыць электрычнасць у кватэры. Не кажучы ўжо пра больш істотныя парушэнні.**

Перад тым, як здаваць шматкватэрны дом або запускаць пастаяннае энергазабеспячэнне ў новым прыватным доме, запрашаюць супрацоўнікаў электрафізічнай лабараторыі. Яны праводзяць неабходную праверку, робяць вымярэнні і даюць тэхнічную справаздачу, без якой дом не можа быць здадзены.

І часам спецыялісты знаходзяць парушэнні, якія б каштавалі здароўя, а то і жыцця навасёлам. Аказваецца, не заўсёды майстры, якія будуюць дом, сумленна робяць сваю працу.

Наталля Сідзяка прыгадала, як аднойчы правяралі 40-кватэрны дом, які нядаўна здаваўся ў Вілейцы. У ванным пакоі ў адной разетцы на нулявым правадзе была фаза. Калі прасцей, то майстар проста пераблытаў правады. Чым гэта пагражала? Калі б да гэтай разеткі хтосьці дакрануўся рукой, яго б ударыла токам.

Каб пазбегнуць бяды, работнікі лабараторыі выязджаюць па графіку на праверку старых дамоў. Тут глядзяць, ці ёсць праблемы з праводкай у пад'ездах, у шчытавых. Па магчымасці праблемы вырашаюць. Правяраюць таксама арганізацыі, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, індывідуальных прадпрымальнікаў у горадзе і раёне. Ад іх пратаколы вымярэнняў патрабуе энерганагляд.

Па словах спецыялістаў, той жа энерганагляд загадвае рабіць вымярэнні і ў сем'ях, якія жадаюць усынавіць дзіця. Пад асаблівым кантролем стан праводкі ў тых, хто знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным стане.

Для праверак у лабараторыі ёсць спецыяльны інструмент, праверанае абсталяванне і спецыяльна навучаныя людзі.

Гэта электраманцёры **Ігар Чычын** і **Сяргей Сушко**. Разам з начальнікам Наталляй Сідзякай яны і складаюць усю лабараторыю, што працуе пры ЖКГ ад 2015 года.

А як электрафізічныя вымярэнні праводзілі раней? Да пэўнага часу ў ЖКГ была спецыяльная група. Потым такія работы пачалі праводзіць прыватныя фірмы. А пасля ў ЖКГ прыйшлі да таго, што патрэбная свая лабараторыя. У Вілейцы такіх лабараторый дзве. У Мінску, у Маладзечне, па словах Наталлі Сідзякі, іх значна больш.

Спецыялісты лабараторыі выязджаюць на туды, дзе адбыўся пажар. Яны могуць ўстанавіць тое месца, ад якога пайшло ўзгаранне.

Аксана ЯРАШОНАК.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.03 | 16.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9023 | 1,9152 |
| Еўра | 2,0123 | 2,0357 |
| Злоты, 10 | 4,6644 | 4,7093 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2698 | 3,2409 |
| Грыўня, 100 | 7,0547 | 7,1263 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" 7.03 і 15.03** | | |
| Еўра | 2.0000/2.0250 | 2.0200/2.0450 |
| Долар ЗША | 1.8900/1.9100 | 1.9080/1.9250 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 7.03 | 14.03 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | 15,99 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | 6,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | 3,35 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,16 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | 13,80 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | 2,50 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,30 | 2,30 |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | 0,75 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,40 | 1,40 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | 0,69 |
| Часнок, 1 кг | 6,99 | 7,00 |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | 0,39 |
| Морква, 1 кг | 0,65 | 0,49 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,95 | 1,69 |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | 3,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | 2,95 |
| Мандарыны, 1 кг | 2,95 | 2,85 |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | 3,49 |
|Ківі, 1 кг | 3,49 | 3,49 |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | 0,45 |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | 2,70 |
| Агуркі, 1 кг | 4,95 | 3,80 |
| Перац, 1 кг | 6,95 | 6,95 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,90 | 2,95 |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | 7,00 |
| Бананы, 1 кг | 2,49 | 2,39 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | 1,39 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 1,45 | 3,45 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | 0,45 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

## На Смаргоншчыне другі выпадак шаленства сярод жывёл

СМАРГОНЬ

**1 сакавіка ў двор жыхаркі Крэва забегла ліса і счапілася з сабакам. На брэх сабакі выйшла гаспадыня і накіравалася да жывёл, якія біліся. Нечакана ліса кінулася на яе і ўкусіла за галёнку. Святар, які праходзіў міма, забіў лісу і дапамог пацярпелай.**

Вынік ветэрынарнай экспертызы галаўнога мозга лісы, дастаўленай для даследавання на шаленства, апынуўся станоўчым. Пацярпелай прызначаны курс прышчэпак супраць шаленства, піша "Светлы шлях".

У Смаргонскім раёне на пачатак 2017 года гэта другі выпадак шаленства сярод жывёл.

Рашэннем Смаргонскага райвыканкама ад 3 сакавіка 2017 года Крэва абвешчанае нядобранадзейным пунктам па захворванні на шаленства.

Ветэрынарная служба раёна распрацавала план мерапрыемстваў па ліквідацыі і прафілактыцы захворвання на шаленства.

Гэта хвароба распаўсюджаная па ўсім зямным шары. Заражаных жывёл у старажытныя часы знішчалі. Цяпер з'явілася прафілактычная мера захворвання – вакцынацыя супраць шаленства, якая праводзіцца яшчэ не заражаным хатнім жывёлам. Шанцы заразіцца для прышчэпленых жывёл мінімальныя.

### Хто распаўсюджвае вірус шаленства?

Часцей за ўсё распаўсюджвальнікамі віруса шаленства з'яўляюцца лятучыя мышы.

Кажаны заражаюць іншых дзікіх жывёл: ваўкоў, лісіц, грызуноў.

### Як знаходзяць шаленства ў дзікіх жывёл?

Заражаныя дзікія жывёлы паводзяць сябе неадэкватна. У звычайным стане яны пазбягаюць людзей, баяцца чалавечага жылля, не пакідаюць свайго асяроддзя пасялення. А для шалёных жывёл характэрныя: страта боязі да чалавека, павышаная агрэсіўнасць, частковы параліч частак цела.

**Калі вам давялося сустрэцца з дзікай жывёлай, першай вашай думкай павінна быць думка пра яе шаленства, бо звычайна дзікія жывёлы трапляюцца на вочы чалавеку зрэдку і на вельмі кароткі час.**

### Як знаходзяць шаленства ў хатніх жывёл?

Дзікія заражаныя жывёлы нападаюць і кусаюць хатніх, тым самым заражаючы іх. Калі хатняя жывёліна прышчэпленая супраць шаленства, турбавацца не трэба. Калі жывёла не прышчэпленая, да яе паводзінаў варта прыглядзецца.

Прыкметы шаленства ўзнікаюць праз некалькі дзён пасля заражэння:

- ✓ трывожнасць,
- ✓ баязлівасць,
- ✓ знікае апетыт,
- ✓ з'яўляюцца святлабоязь,
- ✓ смага,
- ✓ з-за спазму гартані жывёла не можа піць, з рота цячэ сліна.

Праз 4-5 дзён параліч цела, жывёла гіне.

Выконвайце правілы ўтрымання і выгулу хатніх жывёл, праводзьце іх своечасовую рэгістрацыю і вакцынацыю. У выпадку ўкусу, аслінення, драпання дзікай або хатняй жывёлай неадкладна звяртайцеся па медыцынскую дапамогу ў бліжэйшую медыцынскую ўстанову.

Жыхары Смаргонскага раёна могуць атрымаць кансультацыю па пытаннях прафілактыкі шаленства ў Смаргонскім занальным ЦГЭ.

Адрас: **Смаргонь, вул. Юбілейная, 25.**
Тэл.: **(801592) 5-12-58, 5-13-58.**

**Святлана МАЦКЕВІЧ, памочнік доктара-эпідэміёлага Смаргонскага ЦГЭ, газета "Светлы шлях".**





Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Маладзечанскія праваабаронцы ацанілі колькасць удзельнікаў на Цэнтральнай плошчы ў 500-600 чалавек.

# Марш недармаедаў у Маладзечне

## Старшыня райвыканкама, прагулка па Брадвеі і затрыманні

МАЛАДЗЕЧНА

**Упершыню ў серыі падобных акцый да пратэстантаў выйшаў прадстаўнік улады. Гэта старшыня Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Яхнавец.**

Ён папярэдзіў, што мітынг несанкцыянаваны, запрасіў незадаволеных прыйсці з пытаннямі ў райвыканкам. Ніхто не прыняў гэтага запрашэння.

**Маладзечанскія праваабаронцы ацанілі колькасць удзельнікаў на Цэнтральнай плошчы ў 500-600 чалавек. Падчас шэсця па вуліцы Прытыцкага іх стала каля тысячы.**

### Што гучала на мітынгу

Маладзечанка Святлана сказала, што на прадпрыемствах пагражалі, што звольняць з працы, калі супрацоўнікі выйдуць.

Але яна прыйшла, бо бачыць, што "горш няма куды, трэба нешта мяняць".

Праз мегафон прамаўлялі жыхары, многія прыгадвалі аб шматлікіх маладзечанскіх заводах, якія цяпер зачыненыя ці ў разы скарацілі магутнасці. Казалі, што немагчыма знайсці працу.

Пенсіянерка 78 гадоў расказала, што заплаціла падатак за дачку – яе з-за хваробы не бяруць на працу.

– На новы год я ела ліверку з бульбай, гэта быў мой святочны стол.

Сказала, што ў яе статусе пенсіянера ёсць хоць адзін маленечкі плюс: можа выказваць сваю незадаволенасць, не баючыся страціць працу. А пенсію не забяруць.

Маладая сямейная пара прыйшла з дзіцем. У іх ёсць праца, але яны хочуць, каб іх дачка жыла ў лепшых умовах, чым яны. Таму прыйшлі на плошчу.

Агулам сабраліся вельмі розныя людзі. Шмат было мужчын сярэдняга веку, былі пенсіянеры, мамы з вазкамі, моладзь.

Былі людзі, што спецыяльна прыехалі з іншых гарадоў – Мінска, Смаргоні, Вілейкі.

### Пасля мітынгу

Затрымалі арганізатараў, сярод іх лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) **Анатоль Лябедзька**, сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД) **Віталь Рымашэўскі**, лідар руху "За свабоду" **Юрый Губарэвіч**, актывіст БХД **Вольга Кавалькова.**

Юры Губарэвіч, Анатоль Лябедзька, Віталь Рымашэўскі затрыманы на 15 сутак. Маладзечанец **Аляксандр Панамароў** – на 10 сутак. Сем сутак атрымалі Вольга Кавалькова і **Аляксандр Гмыза.**

Як паведамляе рух.by, актывіст АГП **Дзяніс Красачка** атрымаў штраф 50 базавых (1150 рублёў).

**Аддзел інфармацыі.**

**Камент-эксперт**

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

"Вось пакуль мы, беларусы, паміж сабой сварымся, да тых часоў намі будзе карыстацца кіраўніцтва". ***Кацярына.***

"Вось чытаеш вашы каментары і крыўдна за вас, чаму вы такія злыя? Перш чым шукаць чарноцце і бруд у іншых, паглядзіце на сваё адлюстраванне, зазірніце ўнутр сябе. А тое, што на плошчу прыйшлі апазіцыянеры, і, па крайняй меры, я там не заўважыла непрацуючых, убачыла злосных, шукаючых лёгкага хлеба, у асноўным, пенсіянераў. Вы ж атрымліваеце пенсію, не дармаеды. А з дэкрэтам Прэзідэнта я згодная, толькі яго трэба дапрацаваць, каб не цярпелі невінаватыя". ***Алеся.***

"Указ адмяніць!!! Думаю, сам таксама зразумеў, што накасячыў. Аднак ЭГА не дае прызнаць памылку і сказаць пра гэта ўслых. Гэта значыць, прызнацца ў сваёй няздольнасці... Ну, а ў нас, атрымалася маленькая перамога!!! УРА!!!" ***Таццяна.***

"Я працую, плачу ўсе падаткі і аліменты на дзіця, акрамя гэтага, дапамагаю дзіцяці. На рукі атрымліваю 20 рублёў. Дзе мае 500 у.а.? Хто іх жарэ? Сёння людзі выйшлі на вуліцу: беспрацоўныя за свае правы, а іншыя зжэрці мае падаткі. Бюджэт краіны па швах трашчыць, а мы тут пры чым? Нам абяцалі добрае жыццё, а цяпер мы павінны абяцаць кіраўніцтву?" ***Генадзь.***

"Людзей давялі да ручкі. Проста гэта мяжа: цэны растуць, як на дражджах, работы няма, а ў каго ёсць – канцы з канцамі не звесці. Кіраўніцтва не думае пра людзей, ім усё роўна, а хто на вас дармаедаў-кіраўнікоў працаваць будзе?" **Любоў Аляксееўна.**

"А што вы на міліцыю накінуліся, яны выконвалі сваю работу. Яны што, сваёй прысутнасцю вас пакрыўдзілі? Ну стаялі, ну кантралявалі, і што? Улічваючы колькасць разнастайных выпадкаў у свеце, то мне падаецца гэта цалкам прымальным. Я ведаю, што паводжу сябе нармальна, таму яны мне не перашкаджаюць!" ***Ілона.***

# Чаму з-за Астраўца ў Літве гавораць аб дзяржаўнай здрадзе?

## Літоўскі эксперт аб тым, як выглядае будаўніцтва Астравецкай АЭС вачыма літоўцаў

**Пытанне будучага суседства Літвы з беларускай АЭС нашы заходнія суседзі абмяркоўваюць столькі ж, колькі ідзе будаўніцтва.**


Фота забяспечана Марыюшам АНТАНОВІЧАМ.
Марыюш Антановіч.

Але апошнім часам чуваць усё больш крытыкі ў бок **Лінаса Лінкявічуса**, міністра замежных спраў Літвы, за пасіўнасць у гэтай дыскусіі.

Ці сапраўды суседства АЭС перастае хваляваць літоўцаў? І чаму сітуацыю вакол Астраўца называюць самым вялікім за 27 гадоў незалежнасці паражэннем Літвы ў замежнай палітыцы?

Спецыяльна для "Рэгіянальнай газеты" пра гэта распавядае **Марыюш Антановіч**, выкладчык Інстытута міжнародных адносін і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта.

### Астравец – экалагічная і эканамічная небяспека для Літвы

Ад самага пачатку будоўлі Астравецкай АЭС у 2009 годзе Літва мела вельмі негатыўнае стаўленне да гэтага праекта.

Па-першае, краіна бачыць у ім экалагічную небяспеку. Калі на Астравецкай АЭС дойдзе да аварыі, трэба будзе эвакуяваць практычна цэлы Віленскі раён разам з Вільняй. На гэтай тэрыторыі жыве амаль палова жыхароў Літвы. Летась у сакавіку міністр замежных спраў Літвы **Лінас Лінкявічус** заўважыў, што Беларусь не прытрымліваецца міжнародных норм бяспекі: "На жаль, мы дагэтуль не маем інфармацыі наконт уплыву АЭС на навакольнае асяроддзе. Беларускія ўлады не выказваць гатоўнасці выканаць абяцанне наконт тэставання АЭС у неспрыяльных умовах".

Гэтыя словы прагучалі падчас сустрэчы літоўскага дыпламата з прадстаўніком Дзяржаўнага дэпартамента энергетыкі ЗША **Амосам Хоштэйнам**.

Паводзіны беларускага кіраўніцтва толькі пацвярджаюць занепакоенасць літоўскага боку. Летась 10 ліпеня на будоўлі Астравецкай АЭС адбылася аварыя: падчас спробы ўстаноўкі аднаго з рэактараў 330-тонная канструкцыя звалілася з вышыні ў некалькі метраў.

Беларускі бок сцвярджае, што тэрыторыя будоўлі адкрытая для міжнародных экспертаў, але Літва не згодная з такім сцвярджэннем. Пару тыдняў таму, 23 лютага, прэм'ер-міністр Літвы **Саўлюс Сквярняліс** падчас сумеснай прэсканферэнцыі з **Ангелай Меркель** падымаў пытанне аб праблеме доступу да астравецкай будоўлі. Звычайныя жыхары Літвы таксама перакананыя, што Беларусь ставіцца да пабудовы АЭС легкадумна і не прытрымліваецца правіл бяспекі.

**Па-другое, у Астравецкай АЭС Літва бачыць небяспеку для сваёй энергетычнай незалежнасці.**

Паступленне беларускай электрычнасці на літоўскі рынак зрабіла б немагчымым імкненне Літвы выйсці з БРЭЛЛ – агульнай энергетычнай сістэмы, якая аб'ядноўвае Беларусь, Расію, Эстонію, Латвію і Літву. Таксама гэта не дазволіць Літве сінхранізаваць свае электрычныя сеткі з заходнееўрапейскімі.

Яшчэ адзін немалаважны момант – атамную электрастанцыю ў Астраўцы будуе дзяржаўная расійская карпарацыя "Росатам", што таксама не выклікае даверу літоўскага боку ў справе ўсяго праекта.



Фота забяспечана Марыюшам АНТАНОВІЧАМ.
Зоны радыеактыўнага забруджання Астравецкай АЭС на тэрыторыі Літвы. Малюнак Radiacines saugos centras.

### Чаму Літва пасіўна рэагавала на суседства АЭС

Беручы пад увагу ўсе гэтыя факты, трэба заўважыць, што Літва вельмі мала зрабіла для таго, каб прадухіліць будаўніцтва ў Астраўцы. У большасці выпадкаў дзеянні Літвы абмяжоўваліся да кансультацый з беларускім бокам і прыгадваннем АЭС у дыскусіях на міжнароднай арэне.

Чаму так выглядала? Ёсць дзве прычыны. Першая – да канца 2012 года Літва сама мела намер пабудаваць уласную атамную электрастанцыю ў Вісагіні. Меркавалася, што будаўніцтва ў Вісагіні цалкам пазбавіць Астравецкую АЭС эканамічнага фундамента, у выніку чаго астравецкі праект капітулюе.

Літва ўспрымала ідэю беларускай АЭС як беларуска-расійскі блеф, мэта якога – націснуць на Літву, каб тая адмовілася ад сваіх ядзерных амбіцый.

**Таму Астравец успрымаўся гэтак жа несур'ёзна, як і Балтыйская АЭС у Калінінградскай вобласці Расіі, будоўля якой замарожаная.**

Гэта адна з прычын, па якіх урад Альгірдаса Буткявічуса ў 2012-2016 гадах амаль не падымаў гэтай тэмы ні на міжнароднай арэне, ні ва ўнутранай палітыцы. Яго ўрад таксама адмовіўся ад праекта літоўскай АЭС у Вісагіні.

### Літва пачынае "бітву за Астравец"

На пачатку гэтага года літоўская эліта, бы ў казцы "Спячая прыгажуня", раптоўна абудзілася.

На тэрыторыі Літвы, у памежных з Беларуссю рэгіёнах, ужо можна няўзброеным вокам пабачыць Астравецкую АЭС. Місія МАГАТЭ ў студзені гэтага года наведала Астравец і дала пазітыўнае заключэнне. Але Лінас Лінкявічус звяртае ўвагу на тое, што МАГАТЭ займаецца толькі праверкай праекта будоўлі.

– Місія МАГАТЭ ацэньвае толькі тыя элементы, якія вызначыла Беларусь. Напрыклад, не была ацэненая пляцоўка для будаўніцтва. Таму мы вельмі занепакоеныя тым, што стандарты міжнароднай ядзернай бяспекі ў Астраўцы выконваюцца селектыўна, – прыводзяцца словы міністра на сайце Міністэрства замежных спраў Літвы.

Рэзкае "абуджэнне" выклікала вострую дыскусію ў літоўскім грамадстве: чаму правячыя палітыкі і дыпламаты так доўга ігнаравалі пытанне Астравецкай АЭС? Чаму і цяпер іх гэта так мала хвалюе? Як магло атрымацца, што Літва галасавала за зняцце санкцый з рэжыму Лукашэнкі, абсалютна не беручы пад увагу сітуацыю з Астраўцом?

Некаторыя акадэмікі і былыя дыпламаты наўпрост абвінавацілі літоўскую ўладу ў здрадзе дзяржавы і літоўскага народа.

**Літва разумее: або яна цяпер пачне сур'ёзна займацца сітуацыяй вакол Астравецкай АЭС, або палова яе жыхароў ад 2018 года будзе жыць пад радыеактыўнай пагрозай. Таму можна сказаць, што Літва пачынае "апошнюю бітву" за прыпыненне будаўніцтва беларускай АЭС.**

У гэтай сітуацыі магчымыя два сцэнары. Гэта можа быць поўнае прыпыненне будаўніцтва электрастанцыі і адмова Мінска ад праекта ў Астраўцы. Гэтага дамагаюцца тыя, хто крытыкуе ўрад. Але ніхто дагэтуль так і не знайшоў рэцэпт, як прымусіць Беларусь адмовіцца ад АЭС.

Другі, куды больш верагодны сцэнар, мае ў сваёй аснове дамову Літвы і суседніх краін аб тым, каб не купляць электрычнасць у Астравецкай АЭС і не транспартаваць яе ў іншыя дзяржавы. Такі крок заблакаваў бы Беларусі доступ да еўрапейскіх рынкаў і прымусіў бы беларускае кіраўніцтва не карыстацца АЭС па адной простай прычыне: яна б выпрацоўвала надта шмат электрычнай энергіі, якую не было б куды рэалізоўваць.

У любым выпадку, нават калі ў Літвы і атрымаецца зрабіць так, каб Астравецкая АЭС не працавала, то сам факт яе будаўніцтва ўжо застанецца своеасаблівым сімвалам самага вялікага за 27 гадоў незалежнасці паражэння Літвы ў сферы замежнай палітыкі.

**Марыюш АНТАНОВІЧ.**
**Пераклала на беларускую мову Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## У Мінску прэзентуюць кнігу пра Міхала Клеафаса Агінскага

МАЛАДЗЕЧНА

**21 сакавіка а 17-й гадзіне ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры", якая месціцца ў Палацы Рэспублікі, адбудзецца прэзентацыя выдання "Міхал Клеафас Агінскі. Бацькоўскія парады. Чатыры лісты аб выхаванні".**

Складальнікі кнігі – дырэктар Рэтаўскага музея гісторыі культуры Агінскіх **Вітас Руткаўскас** і загадчык аддзела гісторыі Вялікага Княства Літоўскага Інстытута гісторыі Літвы **Рамуне Шмігельскітэ-Стукене**.

У межах прэзентацыі адбудзецца канцэрт выкладчыкаў і студэнтаў Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага.

Імпрэзу падрыхтавалі Амбасада Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і Дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" з нагоды пяцігоддзя дзейнасці фонду.

Дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" створаны ў 2012 годзе з мэтай аднаўлення, захавання і рэпрэзентацыі гісторыка-культурнай спадчыны роду Агінскіх.

Сярод праектаў фонду – аднаўленне рэштаў касцёла Узнясення Дзевы Марыі і Святога Роха 15 стагоддзя і добраўпарадкаванне склепа-пахавальні роду Ходзькаў-Дэдэркаў у вёсцы Аборак Маладзечанскага раёна, правядзенне Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Культурная спадчына роду Агінскіх і яе значэнне для сучаснага развіцця грамадства", пастаноўка оперы Алега Залётнева "Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт", арганізацыя Міжнароднай гастрольна-канцэртнай праграмы "Музыка роду Агінскіх" (Беларусь – Літва – Расія), правядзенне Рэспубліканскага мастацкага пленэру да 250-годдзя кампазітара і іншыя.

За перыяд свайго існавання фонд наладзіў добрыя сяброўскія стасункі з арганізацыямі шэрагу краін свету, сярод якіх Рэтаўскі музей гісторыі культуры Агінскіх і Інстытут гісторыі Літвы.

На імпрэзу запрошаныя прадстаўнікі ўстаноў культуры, адукацыі і навукі, грамадскіх арганізацый, прадпрымальніцкіх структур, сродкаў масавай інфармацыі.

Кантактныя асобы:

**Павел Сапоцька – дырэктар мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" (8029) 853-75-98; Алеся Каролік – дырэктар Дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" (8033) 313-38-65.**

Адрас мастацкай галерэі "Універсітэт культуры": Кастрычніцкая плошча, 1 (Палац Рэспублікі). Тэлефон: **(8017) 327-26-12.**

Аддзел інфармацыі.

## На літаратурную прэмію "Дэбют" прэтэндуюць маладзечанец і віляйчанін

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

21 сакавіка ў Мінску па вуліцы Кастрычніцкай, 16 назавуць пераможцаў прэміі "Дэбют".

Вядучы – паэт ураджэнец Вілейкі **Усевалад Сцебурака**. Таксама зайграе музычны гурт PAULINE.

Нагадаем, што ў намінацыі "Проза" на прэмію прэтэндуюць маладзечанец **Уладзімір Садоўскі** з нашумелым зомбіхорарам "1813" і пісьменнік з Вілейкі **Андрэй Дзічэнка** з пікантнай кнігай-падарожжам па памежных прасторах пад назвай "Сонечны чалавек".

Паводле LIT-BEL.ORG.

## Пройдзе сустрэча з Уладзімірам Цануніным

ВІЛЕЙКА

18 сакавіка а 16 гадзіне ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча краязнаўчага музея пройдзе творчая сустрэча з паэтам, бардам, удзельнікам народнага калектыву "Элегія" Уладзімірам Цануніным.

У праграме – прэзентацыя новай кнігі "Люстэрка", лепшыя вершы і песні аўтара.

Пра гэта расказаў навуковы кіраўнік музея **Віктар Тонкавіч**.

Аддзел інфармацыі.



Фота Віктара АНТОНАВА.

У 2015 годзе спектакль паводле п'есы Айвана Менчэла "Дзявочнік над вечным спакоем" паставіў тэатр імя Яўгена Вахтангава. Сцэна са спектакля. Якім будзе спектакль у Маладзечне, можна пабачыць 25 сакавіка.

# У Маладзечне ставяць брадвейскі спектакль

МАЛАДЗЕЧНА

**Да Міжнароднага дня тэатра, які ўся творчая інтэлігенцыя адзначае 27 сакавіка, у Мінскім абласным драматычным тэатры адбудзецца прэм'ера спектакля "Прыгажуні" па п'есе Айвана Менчэла "Дзявочнік над вечным спакоем".**

Пакуль спектакль яшчэ ў стане падрыхтоўкі і рэпетыцый, мы сустрэліся з яго рэжысёрам **Дзянісам Нупрэйчыкам** і актрысай **Святланай Яцэвіч**, каб распытаць, што ж такога асаблівага і незвычайнага чакаць маладзечанскім гледачам.

**– Будзе жудасна цікава, – адказвае рэжысёр.**

Спектакль гэты ішоў на многіх сцэнах свету, у тым ліку і на знакамітым нью-ёркскім Брадвеі.

– Частка дзеяння адбываецца на могілках. А ў цэлым, спектакль вясёлы, запальны, рамантычны і жыццесцвярджальны. Гэта гісторыя пра тое, што чалавек жыве, пакуль ён адчувае сябе жывым. Спектакль дае надзею і сілы рухацца далей. Не апускаць рукі і не адчайвацца. У спектаклі ўсе сітуацыі настолькі жыццёвыя, што кожны можа пазнаць у той ці іншай сябе.

Сюжэт у спектакля такі. Раз на месяц тры ўдавы збіраюцца на могілках, каб навесці парадак на магілах сваіх мужоў, а пасля папіць гарбаткі і пагаварыць пра жыццё. Вось аднойчы там яны знаёмяцца з адзінокім удаўцом. І паміж імі ўспыхвае…

**– А што ўспыхвае і што з гэтага адбылося, можна будзе пабачыць 25 сакавіка на сцэне тэатра.**

У спектаклі задзейнічаная амаль уся маладзечанская трупа: **Ала Цырук**, **Таццяна Карпец**, **Ірына Камышава**, **Людміла Рошчына**, **Ірына Кляпацкая**, **Аляксей Карпец**, **Наталля Скарынка**, **Аляксандра Грасевіч**.

Акрамя іх, у спектаклі занятыя і мінскія акцёры: **Святлана Яцэвіч** і **Валер Новік**, якія штодзень ездзяць на рэпетыцыі са сталіцы ў Маладзечна.

Спектакль "Прыгажуні" – гэта першае знаёмства Дзяніса Нупрэйчыка і маладзечанскага тэатра.

– Раней у нас не атрымоўвалася пазнаёміцца. Я прапаноўваў некаторыя п'есы, але, як кажуць, не складвалася. І вось нарэшце знаёмства адбылося. Што датычыцца трупы тэатра, то я быў уражаны ўзроўнем, патэнцыялам, прафесіяналізмам, талентам маладзечанскіх акцёраў.

Рэжысёр прызнаўся, што спадзяецца на тое, што гэта не адзіная яго сумесная работа з маладзечанскім тэатрам.

– У партфелі ляжыць ужо не адна п'еса, якую я мару ўвасобіць на сцэне. Спадзяюся, што ўсё атрымаецца.

Наталля ТУР.



Мінскі рэжысёр Дзяніс Нупрэйчык для маладзечанскага тэатра спектакль ставіць упершыню.



Ала Цырук



Ірына Кляпацкая



Аляксей Карпец



Ірына Камышава



Людміла Рошчына



Таццяна Карпец




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

ЧТУП «ПАРУС ТОРГ»

Супер цена! ВЕСЕННЕЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ! **Бумага** Office paper Plano Speed
Словакия плотность 80 г/м² по цене 5.90 руб.

ПРЫМАЕ **дробныя аб'явы і гатовыя макеты** для размяшчэння ў газеце "Рэгіянальная газета і на сайце **rh.by**

***Вилейка, ул. Партизанская, 44***
Тел. 8-01771 **2-01-03,** 8-01771-**2-00-83**

Молодечненский филиал РУП «**Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру**» **18.03.2017**г. проводит единый день информирования по вопросам:
- Оформления правоудостоверяющих документов на недвижимость
- Совершения сделок с недвижимым имуществом
- Оформления изменений после выполнения работ по перепланировке и (или) переустройству, реконструкции зданий и помещений
- Оценки недвижимости
- Установления (восстановления) границ земельных участков

Ответы на интересующие вопросы можно получить в период времени **с 10.00 до 12.00** по адресам:
г. **Молодечно**, ул. Богдана Хмельницкого, 22 и по тел. (8-0176) **58-15-44**
г. **Вилейка**, ул. Островского, 7 и по тел. (8-01771) **5-42-00**
г. **Воложин**, ул. Комсомольская, 6 и по тел. (8-01772) **5-52-42**
г. **Мядель**, ул. 1 Мая, 8 и по тел. (8-01797) **5-47-26**
УНП 600199462

**Молодечненские электрические сети**
осуществляют
**ПОЛНЫЙ КОМПЛЕКС УСЛУГ**
по подключению объектов юридических лиц, ИП и граждан к электрическим сетям

**Перечень работ включает в себя:**
1. Выдача технических условий на электроснабжение
2. Разработка проектов на внешнее электроснабжение
3. Согласование проектной документации
4. Выполнение электромонтажных работ
5. Проведение электрофизических измерений с выдачей протоколов
6. Выдача акта разграничения балансовой принадлежности и ответственности сторон
7. Подключение электроустановок непосредственно к электрическим сетям

По всем вопросам обращаться по адресу:
***г. Молодечно, ул. Я. Дроздовича, 27,***
тел.: 8(0176) **72-64-17, 72-65-37** УНП 100071593

## ВІНШАВАНКА

**Данyце Юльянаўне ШАБУНІ з в. Абадоўцы**

*Сегодня праздник у тебя,*
*Твой юбилейный*
*день рожденья!*
*Мы любим, мамочка, тебя,*
*Желаем счастья и терпенья!*
*Ещё хотим мы пожелать*
*Любви, улыбок, поздравлений.*
*Тебя мы будем обнимать,*
*Душа поет в твой*
*день рожденья!*
*Пускай тебе везёт всегда,*
*Пусть в доме каждый день*
*веселье,*
*Мы любим, мамочка, тебя!*
*Одна у нас ты!*
*С днем рожденья!*

**З павагай, дзеці, унукі і праўнукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтабагажнік. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 3463652.
- ВАЗ-2103, 1978 г.в., Вілейка. Т. (8-029) 1214671.*
- Матаролер "Туліца" ў добрым стане. Т. (8-029) 5035295.
- Міцубісі-Галант, 1997 г.в., 2,0 дызель, эл/пакет, велюр, ц/з, сігналізацыя. Т. (8-029) 6584527.
- Сааб 9,5, 1999 г.в., 2,3 газ/бензін, турба. Усё па тэлефоне. Т. (8-029) 7707838.
- ФВ-Пасат В2, універсал, бензін, па запчастках, ад 20 руб. Вілейка. Т. (8-029) 6517444.
- ФВ-Пасат В2, універсал,1984 г.в., бензін, 5КПП, усё працуе, 1200 руб. Вілейка. Т. (8-029) 6517444.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Дыскі R-15. Т. МТС (8-033) 6016803.
- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

**Купим АВТО в любом состоянии, расчёт на месте. Тел. (8029) 844 40 04**

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Ваш аўтамабіль дорага. Т. (8-029) 5016877.*
- Дапамагу прадаць ваш аўтамабіль. Т. (8-029) 5016877.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Сітраэн-Ксара, можна аварыйны. Т. (8-025) 9249978.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9267289.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, 8, кв. 116; 5 паверх, пад'езд 4. Агульная плошча 24,4 кв. м, жылая 12,6 кв.м, кухня 5,5 кв. м, санвузел сумешчаны 2,9 кв.м, балкон зашклёны, вокны ПВХ, дзверы металічныя. Побач банк. Т. (8-033) 6332446.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Астраўца. Добры рамонт. Т. (8-029) 6795294.*
- Будынак стары былога магазіна у в.Каловічы. Т. (8-029) 7735100.
- Гараж у ГК "Ізбіна" у Вілейцы. Т. (8-029) 1214671.*
- Гараж у ГК № 24 у Маладзечне. Т. (8-029) 6637733.*
- Дача "Рубін-2001" у в. Забалацце, 4 км ад Маладзечна, 11 сотак зямлі. Дом блочны, хлеў, калодзеж, душавая, лазня. Прадам нядорага. Т. МТС (8-029) 5703669.*
- Дом вялікі і добры ў в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні, выдатнае месцазнаходжанне. Т. (8-029) 8724272.
- Дом жылы з выгодамі ў в.Порса, участак 25 сотак. Т. МТС (8-033) 6037713.
- Дом жылы ў Маладзечне 85/34 кв.м, пячное ацяпленне, халодная вада ў доме і ў двары, гаспадарчыя пабудовы, 0,06 га (Старое Места). Дача 6х6,5 кв. м, 2 узроўні, вада на ўчастку, 0,04 га, 48,2 кв.м, СТ "Крынічка-83" ("Родничок-83"), Мароські.Т. (8-025) 6696469, (8-0176) 500337.
- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом у в. Ілішчавічы Вілейскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3204197.*
- Дом у вёсцы Мамаі Вілейскага раёна на беразе ракі Вілія. Плошча 43 кв. м, на 22 сотках зямлі вялікі сад. Т. (8-01771) 71166, (8-025) 5223147.*
- Дом у вёсцы Ялджэнцы Мядзельскага раёна, 20 км ад к.п. Нарач. Побач лес, рэчка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*
- Паўдома ў цэнтры Вілейкі, 10 сотак, альбо абмяняю. Т. МТС 7210722.
- Участак з домам у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру прыстойнай сям'і на доўгі тэрмін. Т. МТС (8-029) 5158971.
- У арэнду гандлёвае памяшканне плошчай 94 кв.м у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-029) 7649962, (8-029) 7613299.*
- Здаю ў арэнду памяшканне альбо прадам. Можна пад СТА. Т. (8-033) 5144308.
- Здам пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А..*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баяніст. Фота. Відэа. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- Відэаздымка падзей. Т. (8-033) 3494488.*

☑ **КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА АВТО,**
☑ **ЧИП-ТЮНИНГ,**
☑ **ВОССТАНОВЛЕНИЕ ШАРОВЫХ ОПОР,**
☑ **УДАЛЕНИЕ ЕГР, САЖЕВОГО ФИЛЬТРА, КАТАЛИЗАТОРА.**
chipauto.by
Т. (8-029) **342 62 22.**
ЧУП "ЛенВиРо" УНП 691505812

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка СО, СН;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- **двигателей**
- **подвески**
- **рулевого управления**
- **тормозных систем**
- **сцепления**
- **механических КПП**
- **задних балок французских авто**

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- **установка и продажа стекол**
- **замена ремней ГРМ**
- **замена и ремонт глушителей**
- **экспресс-замена масла и жидкостей**
- **снятие и проверка форсунок HDI, CDI**

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
**Наличный и безналичный расчёт**
**АВТОЗАПЧАСТИ в наличии и под заказ**
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

**Весеннее предложение для автолюбителей!**
АКЦИЯ!
**Весь март и апрель в продаже АККУМУЛЯТОРЫ***
**55 Ач – 75,00 рублей! 60 Ач – 78,00 рублей!**
**Широкий выбор аккумуляторов разных производителей!**
**А также всегда покупаем и принимаем в зачёт старые аккумуляторы!**
Телефоны в Молодечно (0176) **58-12-48,** (029) **63-63-166,** (033) **323-02-17.**
ООО "Батрикс"УНП 691893243
*Количество акционного товара ограничено!

# Дзесяць рэчаў, якія здзіўляюць у Польшчы

**Чаму беларусы дзівяцца, трапляючы ў Польшчу? Які штуршок дапамог палякам быць асцярожнымі на дарозе і паважліва ставіцца да пешаходаў?**

### Пра транспарт

1. У Варшаве інтэнсіўны рух, і першы час падаецца, як жа я перайду дарогу на нерэгулюемым пешаходным пераходзе. Аднак хваляванне знікае, калі ты бачыш, што, нават не ступіўшы на пераход, машыны спыняюцца.

2. Асцярожныя палякі і на дарозе. Падчас паездкі за горадам кіроўца пачала павольна спыняцца, аказалася, што па ўзбочыне едзе ровароўшчык. Каб яго не закрануць, прыйшлося прапусціць спадарожную машыну і выехаць на сустрэчную паласу.

3. Таксіст ні ў якім разе не павязе пяць чалавек у машыне, якая разлічаная на чатыры пасажыры.

Прычына адна – не хачу пазбаўляцца ліцэнзіі. Яшчэ да паездкі ў таксі адчуваеш сябе сапраўднай пані – кіроўца выходзіць, каб адкрыць табе дзверы, пакласці багаж. Сакрэт да паслухмянасці палякаў вельмі просты – караць рублём.

Пры гэтым штрафы ўнушальныя, асабліва, калі ўлічыць, што цэны на тавары ў пераводзе на нашы грошы меншыя.

Да прыкладу, за перавышэнне хуткасці да 10 кіламетраў у гадзіну ў Польшчы прадугледжаны штраф – 50 злотых, на беларускія грошы гэта 22 рублі 50 капеек. Пры гэтым у беларускім заканадаўстве штраф налічваюць за перавышэнне ад 10 да 20 кіламетраў у гадзіну, ён складае да 23 рублёў.

4. Дзякуючы таму, што ў гарадах многа веладарожак, раварысты на дарозе – гэта нярэдкасць. Паводле статыстыкі, у 2016 годзе ў Варшаве налічвалася больш за 400 кіламетраў веладарожак.

### Узаемаадносіны

5. Ідучы па вуліцы, палякі ўсміхаюцца табе ў адказ. У Беларусі вельмі многа людзей, сканцэнтраваных на сваіх думках. Калі ўсміхацца без прычыны, могуць не так зразумець.

6. Калі цябе зачапілі ў магазіне ці на вуліцы, у адказ ты пачуеш "прабачце, пані". Зайшоўшы разам з табой у ліфт, паляк заўсёды павітаецца.

7. З'ездзіць у Польшчу і нічога не купіць, асабліва калі гэта нешта па прыемнай цане, – гэта не пра беларуса.

Аднак засмучае тое, што беларускія хлопцы хоць бы адзін прапанаваў паднесці сумку. Знаёмыя палякі пацікавяцца, ці цяжка, пані, можа паднесці.



Польшча здзіўляе вялікай колькасцю гістарычных пабудоў. Па брукаваных вуліцах Любліна можна гуляць бясконца.

### Пра мову

8. На першы погляд падаецца, што польская мова вельмі падобная да беларускай, бо адносіцца да славянскай. Аднак пачуўшы хуткую размову, разумееш, што нічога не разумееш.

Становіцца сумна за беларускую мову. Пачынаеш размаўляць у роднай краіне – і нібы становішся кіназоркай, на цябе звяртаюць увагу ў грамадскіх месцах.

Хочацца таксама заспець той час, калі беларусы, пачуўшы рускія словы, будуць з цяжкасцю разумець, што яны азначаюць, бо будуць гаварыць толькі па-беларуску.

Пры гэтым некаторыя палякі таксама не адчуваюць сугучнасці паміж мовамі.

Фатаграфую пабудову, паляк пры гэтым спыняецца, каб не перашкаджаць.

Гавару за гэта "дзякуй" і чую ўражанае: "О, Італія". Адмахваюся і кажу: "Беларусь". Мужчына быў расчараваны – пагаварыць з італьянцам не атрымалася.

9. Калі ты фатаграфуеш горад, пабудовы, палякі чакаюць ці абыходзяць, каб не перашкаджаць.

10. Уздоўж дарог, на пабудовах, банерах у Польшчы вельмі многа рэкламы. Пры гэтым яна настолькі вялізная, што не заўважыць яе проста немагчыма.

Як адзначыў рэдактар газеты "Wspolnota" Матэвуш Ажэхоўскі, у Варшаве вонкавай рэкламы больш, чым ва ўсёй Францыі.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

# ЭСЭ для конкурсу "РГ"

## Выбірайце фіналістаў конкурсаў "РГ"

У конкурсе эсэ ўдзельнічаюць пяць вучняў рэгіёна.

11-класнік Даўгінаўскай сярэдняй школы **Дзяніс Яскевіч** напісаў эсэ "Як я магу зарабіць мільён". Яго мы друкуем у гэтым нумары.

Вучаніца 11 "В" класа гімназіі №10 Маладзечна **Валя Трубач,** вучань школы №3 Вілейкі **Максім Святоха і вучаніца 10 "А" класа гімназіі №7 Маладзечна Надзя Бобрык** пафантазіравалі, як бы правялі тыдзень на бязлюдным востраве.

10-класніца Хажоўскай школы **Надзя Рухля** распавяла пра сваё любімае беларускае слова.

Усе эсэ можна пачытаць на нашым сайце rh.by. Прагаласаваць за абранца можна ад 16 да 20 сакавіка. Па выніках галасавання мы абяром тройку фіналістаў. На этап выбару пераможцы мы запрашаем усіх чатырох удзельнікаў конкурсу. Сярод трох фіналістаў праз латарэю выпадзе імя пераможцы, які атрымае падарунак – смартфон.

### Галасуйце ў конкурсе пра адпачынак

Паралельна з конкурсам эсэ "Рэгіянальная газета" праводзіць конкурс на найлепшую гісторыю адпачынку. Галасаванне за найлепшую гісторыю прадоўжыцца ад 18 да 22 сакавіка таксама на нашым сайце rh.by.

Пераможцу ў ім абіраем галасаваннем. Выбірацца тройка фіналістаў, сярод якіх латарэяй абірацца той, хто атрымае ў падарунак фотаапарат.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

# Як я магу зарабіць мільён

**Я люблю грошы. Гэта выдатны сродак узнагароды чалавека за яго работу і паказчык яе запатрабаванасці.**

Нават уявіць цяжка, якім яшчэ метадам, акрамя грошай, можна стымуляваць чалавека рабіць штосьці, што трэба грамадству і што можа палепшыць жыццё людзей. Я цікаўлюся эканомікай і маю густ у такіх справах. Таму, як толькі заўважыў гэту тэму для разважання, падумаў: "Гэта найвыдатнейшая прапанова з тых, што я атрымоўваў за апошні год. Гэта ж выдатна: і бізнес-план складу, і смартфон выйграю". Двух зайцоў, як кажуць.

І адразу ж мне ў галаву прыйшла ідэя: сучасныя смартфоны каштуюць каля трох-пяці мільёнаў – гэта значыць, што можна даслаць выдатнае эсэ, выйграць смартфон і прадаць яго, а ўжо прадаваць я мастак. Тут і не адным мільёнам пахне… Але раптам апамятаўся: у нас жа ў краіне дэнамінацыю даўно правялі, адсталы я чалавек! Мільён жа цяпер – гэта ў дзесяць тысяч разоў большая сума. Нядрэннае такое ўскладненне. Але я не шукаю лёгкіх шляхоў. Зараз нешта прыдумаю – вырашыў я, і прыдумаў.

Самы першы базавы спосаб – гэта працаўладкаванне. Я працавіты чалавек і магу падысці да справы з пэўнай адказнасцю. Працадаўцы гэта любяць, а працаўнікі любяць кар'ерны рост і вялікую зарплату. Чаму ж мне не любіць? Паколькі я яшчэ не студэнт і не атрымаў спецыяльнасці, не магу дасканала назваць месца, дзе б працаваў. Цікаўлюся робататэхнікай і хачу паступіць на аднайменны факультэт, таму, без сумнення, мне знойдзецца месца на любой вытворчасці. Можна атрымліваць аклад, адкладаць грошы і да канца жыцця назбіраць мільён. Але гэта не мой шлях, бо прывык мысліць маштабна.

Я хачу сам стварыць вытворчасць. Канешне, не без робататэхнікі, але і не з аднымі робатамі, бо краіне патрэбныя працоўныя месцы. Бізнес, накіраваны на вытворчасць, у наш час падтрымлівае дзяржава, але вытворчасць патрабуе вялікіх сродкаў. На гэта ў Беларусі прадугледжаныя праграмы крэдытавання і падтрымкі маладога бізнесу. Я спадзяюся на такую падтрымку, але для яе атрымання неабходна скласці падрабязны бізнес-план. Таксама было б нядрэнна, каб дзейнасць маладога прадпрымальніка супадала з інтарэсамі дзяржавы. І я вельмі блізкі да выканання гэтых пунктаў.




**Жадаем Дзянісу поспеху ў здзяйсненні плана па вытворчасці электрамабіляў і ўладкавання інфраструктуры для іх.**

Я хацеў бы займацца вытворчасцю электрамабіляў. Ва ўсім свеце ўжо даўно практыкуюць гэту тэхналогію. У Германіі, ЗША і Японіі існуюць электрамабілі, якія паспяхова прайшлі стадыю распрацоўкі і паступілі ў продаж. Запас ходу на адным зарадзе акумулятара гэтых сучасных транспартных сродкаў у сярэднім складае каля трохсот кіламетраў, што дазваляе ім быць канкурэнтаздольнымі з бензінавымі і дызельнымі. Электрычнасць у параўнанні з палівам абыходзіцца больш танна, і гэта павінна прывабліваць патэнцыйных пакупнікоў. Да таго ж у нашай краіне будуецца АЭС, што дазволіць зрабіць электрычнасць яшчэ больш даступнай.

Электрамабіль, як ні дзіўна, мае больш простую будову і меншую колькасць элементаў у параўнанні са звыклымі нам аўто, што павышае іх надзейнасць.

> **У нашай краіне ўжо ёсць досвед выкарыстання электрарухавікоў, яны сёння працуюць у самазвалах БелАЗ і некаторых відах гарадскога транспарту.**

І яшчэ электрарухавікі амаль бясшумныя, а шум – гэта праблема сучасных гарадоў.

Але галоўная перавага электрамабіляў над звычайнымі машынамі – гэта іх экалагічнасць. Нават калі для электрамабіля выпрацоўваюць электраэнергію на вугальнай электрастанцыі, гэта будзе ў 2,5 раза менш шкодна для атмасферы, чым спальванне аналагічнай колькасці паліва ў рухавіку ўнутранага згарання. І гэты лік я не з галавы ўзяў. Лічу, што пералічаных мной пераваг больш чым дастаткова, каб пераканаць каго заўгодна ўкласці свае грошы ў гэту справу. Спадзяюся, дзяржава не выключэнне. За мяжой ужо існуюць выдатныя тэхналогіі і прыклады рэалізацыі падобных вытворчасцяў. Ужо маю пэўны план па будаўніцтве, але яму тут не месца. Гэта ўсё ж эсэ.

Галоўнай праблемай майго бізнесу з'яўляецца капіталаёмістасць. Каб пабудаваць вытворчасць і выпусціць на рынак першыя мадэлі аўто, трэба затраціць немалыя сродкі. У дадатак неабходна стварыць для электрамабіляў адпаведную інфраструктуру. Гэта значыць, забяспечыць сучасныя АЗС (запраўкі)араднымі прыладамі, каб зараджаць электронныя машыны было гэтак жа проста, як і запраўляць бензінавыя. Я ўжо не кажу пра персанал і атрыманне ўсіх неабходных дакументаў.

Такія затраты ў рамках рынкавай эканомікі вымушаюць мяне як вытворцу значна павышаць кошт маёй прадукцыі, што цяпер і мае месца ў свеце: электрамабілі ў сярэднім у 1,5 раза даражэйшыя за бензінавых канкурэнтаў. Гэта значыць, што без фінансавай падтрымкі дзяржавы або інвестараў мая мара асуджаная на правал. Але давайце сумленна. Вас жа зацікавіла гэта ідэя? Упэўнены, што так, і ўпэўнены, што інвестары скажуць тое ж самае. Мае довады, падмацаваныя дакладным бізнес-планам, павінны выклікаць давер.

Калі мае ідэі атрымаюць падтрымку, хоць і невялічкую, то я змагу ажыццявіць сваю мару, змагу зрабіць крок наперад у развіцці нашай краіны, змагу зрабіць свет крыху чысцейшым і змагу зарабіць мільён. Мне падабаецца такі шлях, і я раблю ўсё, каб наблізіцца да яго рэалізацыі. Адзін з такіх крокаў – гэта эсэ.

Я павінны ведаць, што мая мара мае падтрымку людзей і не адзін я здольны ёй верыць. Усё вялікае пачынаецца з малога. Дзяржава – з чалавека, мара – з ідэі, а падтрымка – з сяброў. Калі мяне падтрымае рэгіён, то і дзяржава не застанецца ўбаку, бо дзяржава – гэта людзі.

Я казаў, што не шукаю лёгкіх шляхоў. Мой шлях да мільёна менавіта такі.

**Дзяніс ЯСКЕВІЧ, 11 клас Даўгінаўскай сярэдняй школы.**

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Пляшчанская трагедыя

*Працяг. Пачатак у №№1, 2, 10*

**Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Аляксандра (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) Доўнараў (1929 г.н.).**

Яны пражылі разам доўгае жыццё. Але пакуль пажаніцца, давялося прайсці праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні.

Да верасня 1939 года, які перакрэсліў жыццёвыя планы вяскоўцаў, Аляксандра Мікалаеўна паспела скончыць тры класы польскай школы ў суседніх Лоўцавічах. А вось Аляксандр Аляксандравіч толькі адзін клас Казлеўшчынскай сямігодкі.

### З расповеда Аляксандры Доўнар (Булах)

У адрозненне ад суседзяга Дварца, пляшчанцы жылі больш заможна. Амаль што ўсе мелі свой кавалак зямлі і гаспадарку. Ад 1920 года зямля вакол Пляшчанаў належала Багдановічам, якую па загадзе Пілсудскага, па 25 гектараў, выдзялялі прыезджым польскім жаўнерам (асаднікам) у пажыццёвае карыстанне. Ад гэтых надзелаў заставаліся кавалкі (абрэзкі) зямлі, якія раздаваліся моцным і працавітым сялянскім сем'ям.

**Фёдар Булах** атрымаў тры абрэзкі агулам каля 20 гектараў ворыва. Але каб не плаціць вялікіх падаткаў, зямлю раздзяліў на трох ужо дарослых сыноў.

Сын **Іван** (1901 г.н.) не вельмі цікавіўся сялянскай працай. Яшчэ пры царскай Расіі скончыў чатыры класы рускамоўнай Радашкавіцкай гімназіі. Яго вабіла настаўніцтва, якое цягнула ў бальшавіцкую Расію, мяжа з якой пралягала за дзве вярсты на ўсход ад вёскі. У 1922 годзе Іван Булах пайшоў за лепшай доляй у савецкую краіну. Праз гады тры перапіска з ім абарвалася назаўсёды.

Другі сын, **Аляксандр**, застаўся пры бацьку, а **Мікалай**, тата Аляксандры Мікалаеўны, на выдзеленых яму дзедам сямі гектарах зямлі пабудаваўся і разгарнуў добрую гаспадарку.

Гаспадарка мацнела, дзеці былі абутыя, адзетыя. Вучыліся ў школе. Здавалася, усё складвалася. Але ўсе планы і надзеі на будучыню пачалі знікаць вясной 1939.

Чуткі пра вайну з Расіяй змяніліся ўжо на расповеды ад незнаёмцаў-агітатараў з таго боку. Правакацыі савецкіх памежнікаў прынялі рэгулярны характар. Пачалася мабілізацыя вяскоўцаў у Войска польскае. Пад мабілізацыю патрапіў і **Уладзімір Карповіч** (1915 г.н.), родны дзядзька Аляксандры Мікалаеўны. Булахі пачалі рыхтавацца да вайны таксама. Да 17 верасня амаль што ўся гаспадарка была распрададзеная.

У гэты дзень савецка-польскую мяжу перайшло савецкае войска. Баёў за мяжу не было, польскія памежнікі пакінулі яе яшчэ звечара. Савецкія вайскоўцы паводзілі сябе спакойна. Насельніцтва вёскі замерла ў чаканні.

### Раскулачванне, арышты

Спакой скончыўся з першых дзён 1940 года. Распачалося раскулачванне польскіх асаднікаў ды заможных сялян.

З карэнных пад раскулачванне патрапіў **Павел Ваўчок** з Жардзецкіх. У пачатку прыходу Польшчы ён з'ехаў у Амерыку на заробкі. Праз пару год вярнуўся і на зароблены грошы купіў у заборскага пана стары хутар з 15 гектарамі зямлі ў Зацішшы, гэта вярсты паўтары ад Пляшчанаў. Пабраўся шлюбам з карпавіцкай дзяўчынай, **Сцепанідай Рабунец**.

Услед за гаспадаркай разрасталася і сям'я: нарадзіліся **Лёня** (у 1930 годзе), **Ала** (1932) і **Поля** (1934). І вось цяпер усё, што было заробленае і нажытае, савецкія "вызваленцы" падчыстую забралі і параздавалі беднаце, лайдакам ды п'яніцам. А самога Паўла разам з сем'ямі раскулачаных польскіх асаднікаў саслалі ў Сібір. А напрыканцы саракавога кудысьці ў Сібір саслалі і яго жонку **Сцепаніду** з дочкамі.

Разабраўшыся з так званымі кулакамі, НКВД ўзялося за тых, хто вярнуўся з нямецкага палону з мабілізаваных у Войска польскае беларускіх жаўнераў. Амаль што ўсе яны былі арыштаваныя і сасланы ў ГУЛАГ. Так сталася і з дзядзькам Аляксандры Уладзімірам Карповічам.

Нарадзіўся ён тут у Пляшчанах Хаценчыцкай воласці ў 1915 годзе ў заможнай сялянскай сям'і. Да прызыву у Войска польскае халасцякаваў і жыў у сям'і старэйшага брата. Падчас савецка-фашысцкай акупацыі Польшчы ваяваў супраць фашыстаў дзесьці на заходнім фронце, за Варшавай. Але вайна хутка скончылася. Карповіч патрапіў у палон да немцаў. Праз нейкі час яму і яшчэ двум землякам удалося збегчы – дапамагло веданне польскай мовы. Але дабрацца да дому Уладзіміру не атрымалася. У Маладзечне яго затрымалі патрулі і перадалі НКВД. А тыя шмат часу на Карповіча не трацілі. Асудзілі як здрадніка, які перайшоў мяжу, і накіравалі ў ГУЛАГ.

Вайну двух саюзнікаў Уладзімір Карповіч сустрэў на Салаўках. Як былы жаўнер Войска польскага быў залічаны ў Армію Андэрса. У яе складзе ваяваў на розных франтах. Праваяваўшы усю вайну да самай перамогі, ардэнаносец Уладзімір Карповіч на радзіму больш не вярнуўся. Ужо аднойчы адчуўшы на сабе "справядлівасць" савецкай улады, ён вырашыў больш не рызыкаваць і паехаў жыць у Англію, пасля – у Амерыку. І толькі ў сярэдзіне 80-х мінулага стагоддзя, пасля 50-гадовай разлукі з радзімай, Карповіч наведаў Беларусь, свае родныя Пляшчаны.

Пагасцяваўшы з месяц у родных, Уладзімір Сямёнавіч вярнуўся назад ў чужую краіну, у якой атрымаў прытулак, працу і павагу і якая стала для яго другой радзімай. Там, у Амерыцы, і пахаваны.

86-гадовая Аляксандра Мікалаеўна распавядала мне пра мінулае з такой лёгкасцю і без блытаніны, быццам чытала свае ўспаміны з кніжкі. Пасля кароценькай паўзы і глыбока ўздыхнуўшы, працягнула свае расповеды пра нялёгкі свой лёс.



Аляксандр Доўнар, родам з Загаранаў, былы вязень фашысцкага канцлагера.

Фота забяспечанае Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

### Ваенны перыяд у жыцці пляшчанцаў

У чэрвені 1941 года бальшавіцкая ўлада змянілася на фашысцкую, і пляшчанцам у чарговы раз давялося прыстасоўвацца да новай улады і новага парадку. З самага пачатку вайны ў Хаценчыцах стварылі ваенны гарнізон. Для яго ўмацавання ў якасці працоўнай сілы акупанты выкарыстоўвалі не толькі савецкіх ваеннапалонных, але і мясцовае насельніцтва. Ганялі на будоўлю не толькі пляшчанскіх мужыкоў, але і з навакольных вёсак. Падчас жніва пляшчанскіх вызвалілі ад працы ў гарнізоне. Рабілася гэта дзякуючы аднавяскоўцу Карповічу, бо ён быў добра знаёмы з псаломшчыкам Хаценчыцкай царквы, **Ляшкевічам**, у якога штогод абрабляў зямлю.

Ляшкевіч у немцаў быў перакладчыкам, бо добра валодаў нямецкай мовай. Ён запэўніў немцаў, што неабходна вызваліць сялян ад працы ў гарнізоне, каб своечасова ўбраць ураджай, а гэта станоўча адаб'ецца на падатказборы.

Пасля такога тлумачэння нямецкае камандаванне нават пайшло на большае, яно ў дапамогу сялянам накіравала яшчэ і ваеннапалонных. А з надыходам халадоў увогуле расфарміравала іх па вёсках як кватарантаў-працаўнікоў.

Шмат хто з вяскоўцаў і рады быў памагатым, асабліва адзінокія жанчыны. Усё ж як-ніяк, але мужык у хаце.

Муж Аляксандры Мікалаеўны Аляксандр Доўнар родам з суседніх Загаранаў, якія шчыльна прылягаюць да Хаценчыцаў. Размежаваннем гэтых вёсак служыць маленькая лясная рэчачка.

Маленькая, але ўдаленькая, як кажа Аляксандр, бо яшчэ з запольскага часу і на першым годзе вайны на яе беразе каля крынічкі стаяў уласны паравы млын "Загараны" хаценчыцкага яўрэя **Сымаля Цурэнмана**. Спыніўся той млынок пасля расстрэлу немцамі яго гаспадара разам з усёй яго абшчынай. Аляксандр Аляксандравіч гэта добра памятае. Як і тое, што жыхары з навакольных ад гарнізона вёсак бралі палонных не толькі для дапамогі, але яшчэ і таму, што шкадавалі тых чырвонаармейцаў, якія трапілі ў палон да захопнікаў.

### Іван (Яцька) Агатавіч Грынкевіч

Рассяляліся па вёсках ваенапалонныя толькі радавога складу. А палонных савецкіх афіцэраў і бальшавікоў немцы ці расстрэльвалі, ці адпраўлялі ў асобны перавалачны лагер у Раёўцы. Аднаго такога небараку пашкадаваў, на гора сабе і людзям, і даў прытулак Іван (Яцька) Агатавіч Грынкевіч, 1900 г.н., з Заельнікаў.

На гэтым чалавеку хачу заваструць увагу чытача, бо быў ён шырокай душы і шчырага сэрца, хоць лёс і не песціў з самага маленства.

Так атрымалася, што нарадзіўся ён па-за шлюбам. Таму і імя па бацьку атрымаў Агатавіч. У маці сваёй, Агаты, ён быў адзіным дзіцем, бо яна так і не выйшла замуж. Гадавала яго і вяла гаспадарку адна. У 17 год Іван усю мужыцкую справу у гаспадарцы цалкам перацягнуў з матуліных плячэй на свае.

З самага дзяцінства яго дражнілі Самасеўкам. Мянушкі ў вёсцы ў той час былі звычайнай з'явай, і на іх з крыўдай мала хто рэагаваў. Не крыўдаваў на яе і Іван. Калі яму было ўжо гадоў 20, пра Самасеўка ўжо ніхто і не згадваў. А ў 1922 годзе ён ажаніўся з прыгожай дзяўчынай з Мардасоў, **Паўлінкай Цывількай** (з Мулярончаў).

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 17 САКАВІКА

**95 гадоў** з дня нараджэння **Іллі Клаза** (1922 – 1980), беларускага пісьменніка.

### 18 САКАВІКА

**75 гадоў** з дня нараджэння (1942) **Сяргея Волкава**, беларускага графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

### 19 САКАВІКА

**1967 год.** 50 гадоў назад у Сопаце (Польшча) памёр **Караль Румель**, коннік-спартсмен, удзельнік летніх Алімпійскіх гульняў 1912, 1924 і 1928 гадоў, бронзавы прызёр Алімпіяды-1928, першы алімпіец з Беларусі на Алімпійскіх гульнях 1912 года ў Стакгольме.

### 20 САКАВІКА

**120 гадоў** з дня нараджэння **Мікалая Гікалы** (1897 – 1938), савецкага партыйнага і ваеннага дзеяча.

**90 гадоў** з дня нараджэння **Хведара Жычкі** (1927 – 2007), беларускага пісьменніка, паэта, перакладчыка.

**65 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Емельянава** (1952), беларускага паэта.

### 21 САКАВІКА

**90 гадоў** з дня нараджэння **Галіны Васюковай** (1927 – 2004), беларускай пісьменніцы.

### 22 САКАВІКА

**135 гадоў** з дня нараджэння **Эдварда Будзькі** (1882 – 1958), беларускага паэта, публіцыста, выдаўца. Нарадзіўся ў Будславе. Ад 1906 года друкаваўся ў газетах "Наша ніва", "Дзянніца" (1916). Выдавец газеты "Светач" (1916). Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда (1917). У 1918 годзе быў адным з арганізатараў Будслаўскай беларускай гімназіі. Пасля закрыцця гімназіі польскімі ўладамі займаўся арганізацыяй беларускай кааперацыі. У 1921 – 1940 гадах жыў у Літве і Латвіі, актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальным руху, у Каўнасе і Рызе заснаваў курсы беларусазнаўства. Вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце, які пакінуў з-за беднасці. У 1921 – 1922 гадах кіраваў настаўніцкімі курсамі ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс, Латвія). У 1920-я гады друкаваўся ў заходнебеларускай газеце "Наша будучыня". У час Другой сусветнай вайны, падчас нямецкай акупацыі Беларусі (1941 – 1944), працаваў настаўнікам у Мінску і Баранавічах. Цяжка хворы выехаў з Польшчы ў Канаду. Паводле іншых звестак, у канцы вайны выехаў у Германію, пасля – у ЗША. Актыўна ўдзельнічаў у жыцці беларускай эміграцыі ў ЗША. Апублікаваў між іншым свае ўспаміны ў месячніку "Бацькаўшчына". Памёр 14 жніўня 1958 года ў Чыкага.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# За 15 хвілін былі тры выклікі на клі

## І брыгады "хуткай дапамогі" выратавалі ўсіх траіх

МАЛАДЗЕЧНА

**Няпраўда, што супергерoі бываюць толькі ў коміксах і ў баевіках. А як інaчай можна назваць людзей, якія кожны дзень ратуюць жыцці?**

Літаральна ўчора ў кабінет да загадчыка станцыі "хуткай дапамогі" прыбегла брыгада дактароў і фельчараў:

– У нас атрымалася! Паспяховыя рэанімацыйныя дзеянні. 32-гадовую жанчыну выратавалі, у нас атрымалася!

Загадчык станцыі **Андрэй Мушавец** хвалюецца і расказвае пра ўчынак дактароў, як пра подзвіг. Хаця, напэўна, так яно і ёсць.

– Сёння на 137 тысяч жыхароў Маладзечна і раёна працуюць 12 брыгад "хуткай дапамогі": педыятрычная брыгада, брыгада інтэнсіўнай тэрапіі, псіхіятрычная брыгада і астатнія – лінейныя брыгады ( урачэбныя і фельчарскія).

Андрэй Іванавіч расказвае пра тое, што не так даўно аўтапарк машын "хуткай дапамогі" папоўніўся васьмю новымі аўтамабілямі.

– Старыя "ўазікі" больш не служаць у "хуткай", але яны знаходзяцца ў нашым парку ў якасці хуткай дапамогі машынам "хуткай дапамогі", якія па нейкай прычыне не могуць даехаць да месца выкліку. Здараецца такое не часта, але бывае, што машына засядзе недзе па дарозе ў глухую вёску, або проста паламаецца. Гэта ж тэхніка, усякае здараецца.

А бывае і такое, што ні адной вольнай брыгады на станцыі не застаецца.

– Не так даўно быў выпадак, калі ноччу цягам 15 хвілін у дыспетчарскую патэлефанавалі тры чалавекі, якія паведамілі, што выклікаюць "хуткую дапамогу" з прычыны таго, што людзі страцілі прытомнасць. Калі брыгады прыехалі на месца, канстатавалі клінічную смерць. Аднак дактарам і фельчарам удалося выратаваць усіх траіх пацыентаў.

Небяспадстаўна лічыць, што выратаваць траіх маладзечанцаў удалося не толькі прафесійнымі дзеяннямі дактароў і фельчараў, але і тым, што машыны "хуткай дапамогі" абсталяваныя ўсімі неабходнымі прыладамі і лекамі. Сёння ў пералік таго, што абавязкова павінна быць у такіх машынах, уваходзіць 150 найменняў лекаў і медыцынскіх прыстасаванняў.

– Я магу з упэўненасцю сказаць, што маладзечанская "хуткая дапамога" – адна з лепшых у вобласці. Нашы брыгады маюць лекі, якія здольныя выратаваць чалавека, у якога здарыўся інфаркт. Каштуе адна ампула такіх лекаў каля 30 мільёнаў старымі. Закупляюцца лекі ў маладзечанскія "хуткія" з раённага бюджэту. За што выканкаму вялікі дзякуй.

**Многія скардзяцца, прызнаецца Андрэй Мушавец, на тое, што "хуткая дапамога" па нейкай прычыне доўга дабіраецца да месца выкліку.**

– Але трэба разумець, што ўсе выклікі дзеляцца на экстранныя, тэрміновыя і неадкладныя.

Да экстранных выклікаў адносяцца ДТЗ, пажар і іншыя надзвычайныя сітуацыі, страта прытомнасці ў пацыента, сып з высокай тэмпературай у дзяцей, атручэнне хімічнымі рэчамі, выклікі на выпадкі таго, што пацыент павесіўся або ўтапіўся, глыбокія раны, апёкі, парушэнне дыхання, падзенне з вышыні, электратраўма.

Пра такія выпадкі дыспетчары павінны паведаміць брыгадам "хуткай дапамогі" цягам чатырох хвілін ад таго моманту, калі выклік паступіў у дыспетчарскую.

Тэрміновыя выклікі – гэта арытмія, сардэчны прыступ, прыступ астмы, кровацячэнне, абмаражэнні, траўмы, іншароднае цела, роды.

Дыспетчар пра такія выпадкі паведамляе "хуткай" цягам 15 хвілін.

І да неадкладных выклікаў адносяцца тыя, калі людзі выклікаюць "хуткую" абязболіць хворага, калі чалавек атруціўся, калі пацыента ванітуе або баліць галава ці жывот, у выпадку неадэкватных паводзінаў.

Пра такія выклікі брыгады "хуткай" даведваюцца ад дыспетчарскай службы цягам гадзіны.

**На выклік прыехалі тры экстранныя службы: – "А мы пажартавалі!"**

– Вельмі крыўдна, што ў "хуткую дапамогу" тэлефануюць людзі, якім медыцынская дапамога ўвогуле непатрэбная, – кажа Андрэй Мушавец. – Бывае ў нас такое, што чалавек тэлефануе і прызнаецца: "Я проста хачу ў бальніцу".

Адцягваюць дактароў ад сапраўды важных выклікаў і паведамленні выпадковых мінакоў пра тое, што недзе ў горадзе на лаўцы ляжыць чалавек.

– Я ўсё разумею, што лепш перастрахавацца, але перад тым, як тэлефанаваць у "хуткую", можна ж падысці да чалавека, паглядзець, ці патрэбная яму дапамога. А то брыгада прыязджае, выслухае ў свой адрас кучу мацюкоў ад такога "пацыента" і з'язджае назад.

А між тым, адзін выклік "хуткай" абыходзіцца бюджэту ў 60 (600 тысяч) рублёў.

За 2016 год у "хуткую дапамогу" паступіла 46 989 выклікаў. Не цяжка палічыць, што ў сярэднім у дзень дыспетчары прымаюць 122 выклікі.

– Аднак прыкладна дзве тысячы выклікаў – гэта, як мы называем, безвыніковыя. Іншымі словамі, "хуткая" выязджае, а такога адрасу няма або пацыент, які выклікаў "хуткую", збег. Так, бывае і такое. Але ёсць і такія выклікі, калі людзі тэлефануюць у "хуткую" пажартаваць. І робяць гэта дарослыя.

Адзін з прыкладаў, які прывёў Андрэй Мушавец, проста ўражвае тым, што такое ўвогуле адбываецца.

У "хуткую" патэлефанаваў мужчына:

– Прыязджайце, мая сяброўка напілася таблетак.

А, як вы ўжо ведаеце, паведамленне пра атручэнне хімічнымі рэчывамі адносіцца да катэгорыі экстранных.

На месца тут жа выехала брыгада "хуткай дапамогі". Прыехалі, а ніхто дзверы не адчыняе.

Тады дактары "хуткай" выклікалі міліцыю. Прыехала яшчэ адна экстранная служба. Грукаюцца ў дзверы – цішыня. Выклікалі МНС. Выратавальнікі трапілі ў кватэру праз акно, адкрываюць дзверы ўсім службам, тыя забягаюць у пакой, а дома нікога не аказалася. Мужчына з жанчынай, якія выклікалі дактароў, збеглі.

Ужо пасля, калі супрацоўнікі РАУС датэлефанаваліся да таго чалавека, што выклікаў "хуткую", той адказаў:

– А мы пажартавалі!

Дыспетчары "хуткай дапамогі" могуць не толькі прыняць выклік, але і самастойна даць параду тым, хто тэлефануе.

– Здараецца, што людзі тэлефануюць, каб удакладніць, як прымаць тыя ці іншыя лекі. Параіцца, якую таблетку выпіць. Бывае, што тэлефануюць і "замаўляюць" сваіх любімых дактароў. Такім просьбам адмаўляем, бо парадак павінны быць. На выклік выязджае тая брыгада, якая вольная ў дадзены момант.

Калектыў "хуткай дапамогі", прызнаецца загадчык станцыі, малады і дружны.

– Не, не бывае такога, каб людзі сыходзілі з-за таго, што не могуць працаваць. Канешне, праца цяжкая, асабліва калі на руках паміраe пацыент, але ад гэтага нікуды не дзенешся. Бо калі ты доктар і аднойчы выбраў гэты лёс, то застаешся верным гэтай працы назаўсёды.

Пакуль мы размаўлялі з Андрэем Мушаўцом, брыгады "хуткай дапамогі" выехалі на чатыры выклікі. Але кожны раз дактары і фельчары вярталіся ў добрым настроі, значыць, супергероі выратавалі яшчэ адно жыццё.

Фота аўтара.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)




Дыспетчары "хуткай дапамогі" Алена Кучэр



Знутры рэанімабіль выглядае так.

## Экспрэс-апытанне: **Прыгада**



**Таццяна Пятніцкая, доктар-тэрапеўт, Смаргонь:**

– Я сама доктар. Усё маё жыццё праходзіць побач з дактарамі. Калі вы хочаце пачуць сапраўдную гісторыю, звяртайцеся да нашых пацыентаў. Яны вам абавязкова раскажуць нешта добрае або дрэннае.



**Вера Кучарава, работнік банка, Маладзечна:**

– Помніцца, калі чакала дзіця і ляжала ў бальніцы, былі такі доктар, які ўвесь час узрушаўся, што цяжарныя жанчыны не тыя кнігі чытаюць. Казаў, у якую палату не зайду, усюды на ложках кніжкі з нейкімі жахлівымі назвамі ляжаць.

# нічную смерць






Санітар псіхіятрычнай брыгады Аляксандр Даўбенка.

ына, на заднім плане, і Святлана Шаўлюк.







Фельчары выязной брыгады Людміла Чуес, справа, і Кацярына Кірылава.

## айце гісторыю ў вашым жыцці, звязаную з доктарам



**Раіса Камінская, медсястра, Маладзечна:**

– Некалі даўно мне балеў стаўнік. Мяне накіравалі да анколага ў Вілейку. Я зайшла, а доктар кажа: сядайце, будзем пісаць завяшчанне. Якое завяшчанне? – не зразумела я. Тады доктар сказаў, што з маім такім сумным выглядам толькі завяшчанне і пісаць. Пасля агляду ён сказаў, што ў мяне нічога сур'ёзнага: звычайны гастрыт. Гэтым мяне і вылечыў. Я яго тады расцалаваць была гатовая.



**Андрэй Пінчук, будаўнік, Маладзечна:**

– Ніякіх цікавых гісторый пра дактароў у маім жыцці не было. Але ж якія мае гады! Пайду на пенсію, можа, такія гісторыі кожны дзень будуць здарацца. Асаблівых прэтэнзій да медыкаў не маю. Звяртаюся рэдка. Самы страшны доктар для мяне – стаматолаг.



**Надзея Штыкава, таваразнаўца, Маладзечна:**

– Розныя дактары сустракаліся. Таму і гісторыі розныя. Не хаваю, былі такія, што амаль адкрыта патрабавалі прэзент. Але неяк па звычцы да аднаго доктара зайшла з каробкай цукерак. Дык ён вельмі ўзлаваўся. Сказаў, што яму дзяржава плаціць добры заробак, ён усё, што трэба, можа сам набыць.



**Марына Ікановіч, студэнтка, Вілейка:**

– Я з дактарамі ўжо вельмі даўно сябрую. Некалькі разоў на год хаджу да эндакрынолага. Адносіны да мяне ў дактароў ветлівыя. Калі мне рабілі аперацыю, доктар са мной вельмі доўга размаўляў, настройваў на прыемныя думкі, падтрымліваў. Яго ўпэўненасць ў тым, што ўсё будзе добра, перадалася і мне. Таму я не так баялася.



**Ірына Якаўлевіч, медсястра, Маладзечна:**

– З дактарамі сутыкаюся кожны дзень. Але не таму, што хворая. Я працую медсястрой. У дзяцінстве шмат хварэла. Калі ляжала ў бальніцы, на абход прыходзіла доктар – прыгожая жанчына, якой так пасаваў белы халат. Тады я вырашыла, што, як вырасту, пайду ў медыцыну.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.

● НАВІНЫ

## “Дынама-Маладзечна” закрывае сезон 17 сакавіка

МАЛАДЗЕЧНА

Закрываць хакейны сезон у Лядовым палацы дынамаўцы пачнуць у 17:30.

У гэты час пачнецца “Майстар-шоу”. Дынамаўцы прадэманструюць свае хакейныя навыкі.

У 18:00 пачнецца паядынак паміж “Дынама-Маладзечна” і заўзятарамі “зуброў”. Матч пройдзе ў тры перыяды па 15 хвілін кожны.

У 19:30 у рэстаране Ice Time стартуе “Дынама-ТБ-шоу”: трэнерскі штаб “зуброў” адкажа на пытанні балельшчыкаў. Любы ахвотны зможа ўзяць аўтограф і зрабіць фота на памяць.

Пасля заканчэння “Дынама-ТБ-шоу” свята працягнецца ў рэстаране Ice Time, дзе будзе прапанаванае спецыяльнае меню заўзятара. Усім зніжка 10%.

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ашмянец прынёс Беларусі першае серабро

АШМЯНЫ

У горадзе Тыстэд у Даніі распачаўся чэмпіянат Еўропы па класічным паўэрліфтынгу ў трохбор’і. Першы медаль камандзе Беларусі вечарам 12 сакавіка прынёс ашмянец **Альберт Станкевіч**.

Самы юны беларускі спартсмен на чэмпіянаце Еўропы заняў другое месца ў катэгорыі 53 кілаграмы сярод юнакоў да 18 гадоў.

Чэмпіянат працягнецца да 19 сакавіка.

## “Смаргонь” прайграла дублю “Нёмана”

СМАРГОНЬ

Чарговы спарынг ФК “Смаргонь” правеў 11 сакавіка ў Гродне з дублем “Нёмана”. Матч прайшоў у футбольным манежы. Смаргонцы прапусцілі па адным галы ў кожным тайме і прайгралі 0:2.

## “Мядзведзі” – на пятым месцы

СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ

Матч у адказ за пятае-шостае месцы чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе адбыўся 11 сакавіка ў Смаргоні. Нагадаем, першы матч паміж “Цэментнікам” з Краснасельскага і “Мядзведзямі” са Смаргоні завяршыўся ўнічыю 9:9. У суботнім матчы забілі на гол менш.

Смаргонцы ад пачатку вялі ў матчы, нават адрываліся на чатыры галы. Але сапернік здолеў зраўняць лік 6:6. Усё ж “Мядзведзі” былі мацнейшыя 9:8.

– З цяжкасцю, але выйгралі, – пракаментаваў вынік гулец “Мядзведзяў” **Віталь Будай**. Ён з-за траўмы не гуляў і вёў пратакол матча.

– Увогуле, якія задачы каманда ставіла на сезон?

– Самыя высокія. Але траўмы, занятасць гульцоў на працы не дазволілі выступаць увесь час у аптымальным складзе.

Чатыры галы ў апошняй гульні ў смаргонцаў забіў **Іван Смольскі**, які і стаў найлепшым гульцом матча.

Такім чынам, “Мядзведзі” са Смаргоні фінішавалі пятымі. “Меліяратар” з Астраўца заняў восьмае месца. Дома 11 сакавіка астраўчане прайгралі і гульню ў адказ “Беллакту” Ваўкавыску 6:10. Найлепшым у “Меліяратара” у матчы прызналі **Станіслава Тумкевіча**.

## Апублікавалі спіс арганізатараў дамоўных матчаў

АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ

Праваахоўнікі ўстанавілі, што вынікамі футбольных матчаў спрабавалі маніпуляваць прадстаўнікі шэрагу футбольных клубаў. Следчы камітэт назваў імёны 26 чалавек, якія ў той ці іншай ступені маюць дачыненне да супрацьпраўных дзеянняў.

Сярод іх дзевяць футбалістаў, якія гулялі ў “Іслачы”. Нават **Уладзімір Макоўскі**. Таксама ў спісе на той час гульцы “Ашмянаў-БДУФК” **Віталь Жалудок**, **Вячаслаў Палазнік**, **Аляксей Саковіч**, **Ягор Гузель**, **Дзяніс Жбанкоў**, сем гульцоў “Прамення” і **Сяргей Крот** (на той момант гулец “Смаргоні”). Пра гэта паведамляе Беларуская федэрацыя футбола.

Пазней экс-нападаючы “Смаргоні” Сяргей Крот абверг сваё дачыненне да арганізацыі дамоўных матчаў.

– У мяне была тэлефонная размова з адным з удзельнікаў гэтай справы. Я прасіў яго пазычыць мне грошай, але ніхто з праваахоўных органаў не прад’яўляў мне абвінавачанняў. Мяне выклікалі ў Следчы камітэт, далі раздрукоўку размовы. Я растлумачыў, што да чаго. Наша гутарка са следчым доўжылася хвілін 20, але больш мяне нікуды не выклікалі, – прыводзіць яго словы Tribuna.com.

**Аддзел інфармацыі.**



Першая таварыская сустрэча з “Забудовай” скончылася з лікам 0:2 на карысць каманды “Маладзечна”. На фота зверху галоўны трэнер маладзечанскай каманды Сяргей Дараховіч, унізе – гулец каманды Аляксандр Альховік.

# Дванаццаты “гулец” дапамог маладзечанцам перамагчы ў першым матчы сезона

МАЛАДЗЕЧНА

**Футбольны сезон у Маладзечне пачаўся ў нядзелю, 12 сакавіка, таварыскай сустрэчай з камандай “Забудова” з Чысці.**

Як казалі аматары футбола, важнай сёння была не перамога той або іншай каманды, а тое, каб паглядзець на гульцоў, у якой форме яны пачынаюць сезон, на што здольныя.

Канешне, пакуль не ўсё атрымоўвалася: і хуткасць была не тая, і атакі здаваліся не такімі вострымі.

Адзіныя, хто быў на 100% гатовы да футбола, – гэта фанаты маладзечанцаў.

На сектары заўзятараў было шматлюдна і “зялёна-бела” ад сцягоў.

Вядома, фанаты засумавалі па футбольных баталіях, таму і маладзечанцаў падтрымлівалі як у самай адказнай гульні.

Гульцы каманды “Маладзечна” не расчаравалі сваіх заўзятараў – лік матча 0:2.

Галы забівалі **Ігар Талькоўскі** і **Сяргей Дрозд**.

У першым тайме супраць Ігара Талькоўскага груба згуляў сапернік, за што суддзя прызначыў пенальці, які на апошніх хвілінах першага тайма і рэалізаваў сам Ігар Талькоўскі.

А яшчэ, верагодна, што маладзечанцам дапамог перамагчы сабака, які ўвесь другі тайм бегаў па полі.

**– Шарык! Шарык! – сканавалі заўзятары, а сабака бег ад варот да цэнтра поля, стаяў з гульцамі ў сценцы, падслухоўваў тое, што гаварыў футбалістам суддзя.**

Акрамя даўно вядомых футбалістаў **Аляксандра Альховіка**, **Юрыя Бугая**, **Дзмітрыя Касцюка**, **Юрыя Малько** і іншых, у першай гульні сезона згулялі і новыя, маладыя гульцы, імёны якіх пакуль вядомыя не ўсім.

Таму і пытанне да галоўнага трэнера каманды “Маладзечна” **Сяргея Дараховіча** было адно:

**– Як справіліся з задачай навічкі?**

– Я ўсімі гульцамі задаволены. Зразумейце, гэта першая гульня, хлопцы другі раз мячык убачылі. Аднак усе задачы імкнуліся выканаць, адпрацавалі выдатна.

**– Каманда сфарміраваная?**

– Пакуль не да канца, я так мяркую, што ў камандзе могуць з’явіцца два гульцы з Мінска, аднак гэта пакуль недакладна. Што магу параіць сваім гульцам? І надалей старацца паказаць усе свае магчымасці, каб увайсці ў каманду.

**– Чысцінцам прапаноўвалі змяніць клуб?**

– Так, я падыходзіў да маладзечанцаў, якіх ведаю яшчэ па ДЮСШ, прапаноўваў падумаць над тым, каб вярнуцца гуляць у Маладзечна, аднак пакуль з тых, каму я прапаноўваў, ніхто мне не ператэлефанаваў.

У Маладзечне аматары футбола змогуць убачыць каманду толькі, калі пачнецца чэмпіянат, а пакуль каманда трэніравацца будзе на полі ў Чысці.

Так і ў наступныя выхадныя ўсіх аматараў футбола чакаюць у Чысці.

І больш за іншых футбола чакае дванаццаты гулец каманды – Шарык. Таму не забудзьцеся пакласці ў кішэню сасіску.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**
**Больш фота на сайце**










Заўзятары прыехалі на гульню вялікай дружнай арміяй, аднак без дапамогі мясцовага Шарыка перамагчы камандзе можа, і не ўдалося б.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Збяднелы неплацежаздольны неплацельшчык.
4. Пісьменнік, які стаў “Сумленнем Захаду”. Яго цытата “Кожны разумны чалавек так ці інакш калі-небудзь жадаў смерці тым, каго любіць”.
5. Вывучае насякомых.
7. Харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе доўгіх тонкіх трубачак.
12. Службовая асоба, што займаецца канцылярскімі справамі.
14. Бяздарны паэт.
16. Дорага наадварот.
17. Прозвішча кіраўніка клуба “Пошук”, якая займаецца вяртаннем імёнаў людзей, зніклых падчас Другой сусветнай вайны. Ганаровая грамадзянка Маладзечна.
19. Геніяльная думка прыйшла да братоў Монгальф’е, стваральнікаў паветранага шара, калі іх дзяўчына ў лёгкай пышнай спадніцы блізка падышла да гэтага.
20. Чыноўнікам Таджыкістана нельга мець іх у золаце. А вось папулярная спявачка Рыяна з нядаўніх часоў з такімі фарсіць.
22. Намеснік правіцеля ў Старажытнай Персіі і Індыі.
24. Няворaная зямля, якая зарасла густой травой.
27. Жыхары аднаго племені называюць гэту жывёлу “жабай з накрыўкай”.
28. Прафесійны яздок на скачках.
29. Паўтор з перыядычнасцю ў 12 месяцаў.
31. Па гэтым шляху яшчэ ніхто не хадзіў.
32. Што лічыць у чужой кішэні нядобра, але вельмі цікава?
34. Майстэрства разьбы на каштоўных камянях.
35. Падчас Вялікай французскай рэвалюцыі народ скардзіўся, што нічога не відаць. Таму на замену ёй прыйшла шыбеніца.
36. Сход аўтарытэтных асоб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Невымерная глыбіня.
3. Знаўца вытанчаных страў.
6. Яно ў пакоі, а пакой у ім.
8. Дробязная прыдзірлівая скарга.
9. Народная інструментальная мелодыя, часцей танцавальная.
10. Гэта планета сярод бачных з Зямлі самая яркая.
11. Гутарка выкладчыка са студэнтамі для выяўлення іх ведаў.
13. У старажытнасці гэты харчовы дадатак быў даражэйшым за каштоўныя металы і выкарыстоўваўся замест грошай.
15. Завяршэнне касьбы.
18. Аптычны генератар для атрымання вузкага, вельмі моцнага пучка святла.
20. Фанабэрысты, ганарысты чалавек.
21. Як, па меркаванні мастака, брыдкасць і прыгажосць варта паказаць у творы, каб дасягнуць найбольшага эфекту ад кожнага?
23. У індуізме – уцелаўленне бога ў вобразах другіх багоў, людзей і жывёл.
24. Сталіца Інданэзіі.
25. Збудаванне з чатырохвугольных вянкоў бярвення.
26. Паўднёвае пладовае дрэва сямейства тутавых, фігавае дрэва, смакоўніца.
30. Гэты мастак дамовіўся з ключнікам Сіксцінскай капэлы, каб убачыць роспіс столі Мікеланджалам. Пад моцным уражаннем вярнуўся да сваёй фрэскі, саскабліў і напісаў нанова ў манеры, падобнай да працы Мікеланджала.
31. Падарожнічае па свеце, застаючыся ў адным і тым жа кутку.
33. Горад у Аўстраліі і жаночае імя, ад якога паходзіць імя Аліса.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ №10.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Німфа. 3. Эрудыт. 7. Парыж. 8. Эфект. 10. Рэклама. 12. Шчыраваць. 14. Лікбез. 17. Гугл. 18. Юнкер. 19. Фасад. 20. Прымак. 23. Пуанты. 26. Юніёры. 27. Анкара. 30. Язмін. 31. Пунсовы. 32. Выцінанка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Уайльд. 4. Шрот. 5. Бартэр. 6. Запарожцы. 8. Эмбарга. 9. Разак. 11. Чынгісхан. 13. Трапкач. 15. Іхтыялогія. 16. Увага. 21. Занзібар. 22. Ніл. 24. Баруны. 25. Сахаты. 28. Прыпой. 29. Прымус. 30. Якуты.

## ГАРАСКОП 17-23 САКАВІКА



**АВЕН.** У жыццё імкліва ўрываюцца новыя падзеі, якіх вы нават не чакалі. Спрыяльны перыяд для любых пачынанняў, калі іх мэта – унясенне ў ваша жыццё гармоніі і спакою. Добры час для правядзення розных сустрэч з сябрамі, святаў і сямейных мерапрыемстваў. Любыя справы ў гэты перыяд прынясуць вам масу задавальнення.



**ЦЯЛЕЦ.** Цяпер вас чакае рамантычнае знаёмства. Адносіны будуць мець сур’ёзны працяг. І хаця развіццё будзе імклівым, у іх можна быць упэўненым.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вас чакаюць сустрэчы, да якіх вы не гатовыя. Тыя сферы, якія кантралявалі ці якімі маглі кіраваць у мінулым, будуць страчаныя ў віхуры перамен.



**РАК.** Вам пачнуць аказваць увагу адразу некалькі чалавек, ды так назойліва, што вас пачне гэта напружваць. Захоўвайце спакой, вытрымку і шукайце ўнутраныя сілы, каб перажыць гэты перыяд.



**ЛЕЎ.** Калі ў вас узнікнуць нейкія спрэчныя пытанні, калі вашы ідэі, планы, погляды моцна расходзяцца, то папрасіце парады збоку, выслухайце астатніх і самога сябе. Адстойвайце сваю пазіцыю, але і да чужога меркавання не забывайце прыслухоўвацца.



**ДЗЕВА.** Пастарайцеся не хапацца за ўсе справы адначасова, плануйце свой распарадак дня і штосьці рабіце сёння, штосьці пакідайце на потым, тады і вы будзеце цэлыя, і вынік парадуе.



**ШАЛІ.** Жаданне разабрацца ў жыццёвым шляху можа настолькі вас зацягнуць, што вы пагрузіцеся ў пастаянныя роздумы і самааналіз, што не прынясе ніякай карысці. Адцягніце ўвагу ад мітусні як знешне, так і ўнутры сябе і пастарайцеся ні аб чым не клапаціцца, захоўваць мір і гармонію.



**СКАРПІЁН.** Незалежна ад таго, што будзе адбывацца ў вашым жыцці, вы адчуеце сябе ў гармоніі з сабой – а гэта самае галоўнае. Сакрэт вашага шчасця заключаецца ў паслядоўных і абдуманых дзеяннях, што дазваляе вам захоўваць раўнавагу ўнутры сябе.



**СТРАЛЕЦ.** Могуць узнікнуць нязначныя перашкоды на вашым шляху, планы могуць рэалізоўвацца не так гладка, як вы спачатку разлічвалі. Але не варта ісці напралом, праявіце кемлівасць, трохі хітрасці, і вы ўбачыце, як лёгка можна абысці любую перашкоду з мінімальнымі намаганнямі.



**КАЗЯРОГ.** Жыццё ніколі не спыняецца, і мы ўвесь час павінны рухацца наперад. Але калі ўзнікаюць перашкоды ці нейкія праблемы, то вам трэба толькі ведаць і верыць, што ваш шлях правільны, а цяжкасці, якія ўзнікаюць на ім, толькі пацвярджэнне гэтаму. Адкіньце сумненні і страхі і рухайцеся наперад.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам усміхнецца ўдача ў фінансавых справах. Магчымы выйгрыш ці нейкае іншае грашовае паступленне, што значна палепшыць ваша становішча. Вам толькі трэба мець пэўную долю ўмеранасці. Атрымаўшы – умейце спыніцца, захаваць гэта, а не кідаць і ісці за большым.



**РЫБЫ.** Вам у гэтыя дні лепш нічога не планаваць і не пачынаць. Добра было б, напрыклад, прыбіраць дом да велікодных святаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | 3 | | | | | 8 |
| 9 | | 5 | | 1 | | | | |
| | | | | | 7 | 9 | 4 | |
| 1 | 2 | 8 | | | | | | |
| 6 | | | | | | | | 4 |
| | | | | | | 6 | 7 | 1 |
| | 9 | 2 | 7 | | | | | |
| | | | | 5 | | 2 | | 3 |
| 5 | | | | | 2 | 7 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 6 | 7 | 3 | 4 | 9 | 1 | 5 | 8 |
| 9 | 4 | 5 | 2 | 1 | 8 | 6 | 3 | 7 |
| 8 | 3 | 1 | 5 | 6 | 7 | 9 | 4 | 2 |
| 1 | 2 | 8 | 6 | 7 | 4 | 5 | 3 | 9 |
| 6 | 7 | 3 | 1 | 9 | 5 | 8 | 2 | 4 |
| 4 | 5 | 9 | 8 | 2 | 3 | 6 | 7 | 1 |
| 3 | 9 | 2 | 7 | 8 | 6 | 4 | 1 | 5 |
| 7 | 8 | 6 | 4 | 5 | 1 | 2 | 9 | 3 |
| 5 | 1 | 4 | 9 | 3 | 2 | 7 | 8 | 6 |

# Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**
**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

“**Марская нявеста**” (спектакль для дзяцей), *Юры Дунаеў*
18 сакавіка – 10:30, 12:00

“**Бяда ад пяшчотнага сэрца**” (вадэвіль), *Уладзімір Салагуб*
18 сакавіка – у 17:00

“**На другі дзень Сёмухі**” (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове “Прымакоў” Янкі Купалы), *Юры Вута*
21 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

**Тэлефоны:**
**74-63-86** – намеснік дырэктара, **74-63-88** – галоўны адміністратар, **74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 00066659

# Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

“**Канёк-гарбунок**” (чароўная казка), *П.Яршоў (рус.)*
19 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 74-63-79, 50-56-96, 74-63-91.**

УНП 600136804

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**18 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +6 | | +1 / +4 | | 0 / +1 | | -3 / 0 | |
| | 738 | ↗ 6 | 728 | → 6 | 727 | ↓ 4 | 727 | ↑ 6 |
| Вільня | -1 / +5 | | +2 / +4 | | 0 / +2 | | -2 / +2 | |
| | 744 | ↗ 8 | 736 | → 6 | 739 | ↓ 6 | 732 | ↑ 8 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.18
Захад 19.23
Даўжыня дня 12.05

Усход 0.42
Захад 10.01
Квадра 1

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +2 | +3 | 733 | ↗ 2 |
| Гродна | +3 | +5 | 736 | → 5 |
| Мінск | +1 | +4 | 728 | → 6 |
| Магілёў | 0 | +1 | 732 | → 5 |
| Брэст | +3 | +5 | 737 | → 4 |
| Гомель | 0 | +3 | 737 | → 6 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -21,9 °С у 2013 годзе
Максімальная тэмпература +16,6 °С у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,2 мм у 1962 годзе
Паводле meteoinfo.by









## Чытайце праз тыдзень:

● За якія грахі ў Германіі на Дзень святога Марціна рэжуць і смажаць гусей. І як у школьныя гады Уладзімір Някляеў ненавідзеў немцаў. Пра гэта паэт, палітык, ураджэнец Смаргоншчыны раскажа чытачам "Рэгіянальнай газеты" ў наступным нумары.

● ГІСТОРЫІ З ЖЫЦЦЯ

## Чым пагражае стомленасць доктара

**Гэту гісторыю Уладзіміру Някляеву распавяла Святлана Чарняўская, удава Міхася Чарняўскага, вядомага беларускага археолага і гісторыка з Мядзельшчыны.**

"Я толькі-толькі медінстытут скончыла, працаваць пайшла – і якраз пад эпідэмію грыпу патрапіла. 50 чалавек у паліклініцы прыняўшы, бегаю па выкліках, якіх таксама паўсотні. Ногі адвальваюцца.

Застаецца ў спісе апошняя кватэра – ісці не магу. Цяпер, можа, і не пайшла б, а тады... Давай-давай, маладая доктарка! Хворыя людзі чакаюць!

Падымаюся на трэці паверх – упокат ляжаць трое. Муж, жонка і дзіця. Дзяўчынка. Стэтаскоп у мяне на грудзях, слухаю дзяўчо – не чую. Ні дыхання, ні сэрца! Памерла! Ужо было некалькі смяротных выпадкаў...

Госпадзі! Як сказаць бацькам? Са мной жа такога не здаралася ніколі... Маўчу хвіліну, другую... Сама ўжо не дыхаю, у самой сэрца спыняецца...

І тут маці, якая побач з дачкой ляжыць, прыпадымаецца на локаць, глядзіць на мяне сумна-сумна, а потым ціхаціха, бо праз хваробу зусім слабая, кажа: "Доктар, вы трубачкі ў вушы не ўставілі..."

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.



Шмат
• фота
• відэа
• навінаў
шукайце
штодзень
на сайце "РГ"
Rh.by

# Расціце вялікімі разам з "Рэгіянальнай газетай"



*Вясна – час абнаўлення, росквіту, дзёрзкасці і маладосці.*

Менавіта такой і імкнецца быць "Рэгіянальная газета".

Падпіска на газету гарантуе, што вы ніколі не прапусціце самыя гарачыя навіны, цікавую інфармацыю, конкурсы, розыгрышы прызоў.

**У кожным нумары:**

- эксклюзіўныя тэксты
- крыжаванка
- праграма тэлебачання
- гараскоп
- гістарычныя артыкулы
- цэны на рынку
- прагноз надвор'я
- каляндар
- аб'явы і рэклама
- судоку

## Падпісацца можна:

праз сайт "Белпошты" (заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "Алфавітны", цісnem літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета")
на пошце
праз паштальёна
праз плацежна-даведачны тэрмінал

**Падпісны індэкс: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 2 рублі 25 капеек, на тры месяцы – 6 рублёў 75 капеек, на шэсць месяцаў – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 7 рублёў, на тры месяцы – 21 рубель, на шэсць месяцаў – 42 рублі.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1142) 17.03.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 252. Падпісана ў друк у 16.00 16.03.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.